

# КАЛІ ПАЧЫНАЕЦЦА ВЯСНА

— Калі пачынаецца вясна? — пытаўся я ў нашага дзеда Міхала. Ён быў лысы, барадаты і вельмі мудры. Ён усё ведаў.

— Вясна пачнецца тады,— гаварыў дзед,— калі шчупак хвастом расколе лёд на рэчцы, калі забушуе крыгалом, калі вада падыдзе да нашага агарода.

Вада падыходзіла да саменькага агарода, а вясны не было. Холадна...

— Калі пачнецца вясна?

— А тады, калі з кляновай галінкі закапае сок у збанок.

Я надразаў кляновую галінку, капаў сок у збанок, а вясны не было. Холадна...

— Калі пачнецца вясна?

— Бусел на крыле прынясе вясну з цёплага краю.

Прыляцелі буслы, не прынеслі вясны. Холадна...

— Калі пачнецца вясна?

— А тады, калі зязюля закукуе ў бары, калі на елках маладыя шышкі стануць такія чырвоныя, як грабеньчыкі ў пеўняў.

Закукавала зязюля — смалою-жывіцай, карою запахлі хвоі ў цёмным бары. Маладыя шышкі на елках пачырванелі, заіскрыліся, як у пеўняў грабеньчыкі. Вясёлыя іскрынкі ўпалі на траву, падскочыла ад радасці трава, а ў траве засінелі, зачырванелі, заружавелі краскі. Цеплынёю, мядовым водарам дыхнулі мне ў твар тыя лугавыя краскі. І тады я зразумеў: з шэрай зязюлі, з яе самотнага голасу, з чырвоных маладых яловых шышак пачынаецца цёплая вясна...

Вясна-красна на ўвесь свет!



## БУСЛЫ

— Можа праўда, можа казка, але гэтак яно было,— пачынае мне расказваць дзед.— Аднаму вельмі хітраму, сквапнаму чалавечку бог даў мяшок і загадаў: «Занясі гэты мяшок на балота ды ўтапі ў гнілой дрыгве!»

Панёс мужычок. Цяжкая ноша. Нешта жывое варушыцца ў мяшку... «Што там варушыцца? Трэба паглядзець?»

Спыніўся той хітры чалавек, развязаў мяшок, а з яго папаўзлі вужакі, павыскаквалі жабы, вярэпаўкі... Распаўзліся, прытаіліся пад купінамі, пад карчамі, пад кустамі ды ў норах замшэлай дрыгвы...

«Ах, ты, нягоднік! — крычыць з неба бог на таго мужычка.— Развязаў! Не ўтапіў!.. Быць табе буслам з гэтай часіны!»

І стаў ён буслам. І ўсё ходзіць, ходзіць па балоце, па дрыгве. І ўсё жаб, вужакаў збірае...

Гэта казка мне заўсёды прыгадвалася, калі я, бывала, пачую бусліны клёкат на страсе нашага гумна. З буслянкі на мяне пазіраў стары, прыгорблены бусел і, здаецца, хацеў сказаць:

— Бачыш, якая горкая мая доля! Вужакамі, жабамі кармлюся... А ў цябе хлеб і ўсякія прысмакі... Жывеш!..

І мне было шкада старога, цыбатага бусла. Я нават трошкі пабойваўся яго. Асабліва пасля таго, калі мне дзед сказаў:

— Калі пакрыўдзіць, угнявіць бусла,— ён падпаліць вёску. Выхапіць з начлежніцкага вогнішча галавешку, кіне яе на страху гумна; агонь пераскочыць з гумна на хлеў, з хлева на хату, а там пайшло і пайшло... Згарыць уся вёска...

— Дык трэба яго прагнаць! — злаваўся я на бусла.

— Не, праганяць не трэба. Шануй, паважай буслоў. Яны ачышчаюць нам паплавы, балота. Буслы — карысныя, разумныя птахі. Яны нават прадугадваюць, які будзе год... Скіне бусел маленькае буслянятка з гнязда — будзе сухмень, будзе трудны, галодны год...

Гэта мяне вельмі палохала... А што, калі скіне стары буслянятка? Бяда!.. Кожным ранкам я хуценька бег на прыгуменне, глядзеў на гняздо: ці ўсе там буслянятхі?.. А яны былі ўсе чатыры ў гняздзе! Ад радасці я качаўся па траве, пераскакваў цераз плоцік... Будзе добры, хлебны год!

Я добра ведаў цану хлеба. Бывала, маці дастане

з печы гарачы бохан, нажом паставіць крыжык на верхняй скарынцы бохана, апырскае яго вадою і, яшчэ цёплы, прапацелы, пакладзе на стале, накрые палатняным абрусам, хаця б хлеб не ўцёк упрочкі.

Са свежаю, цёплаю скібаю бег я на прыгуменне, каб пахваліцца буслам сваім смачным хлебам. Маленькія крошкі пакідаў на траве, каб іх падабралі буслы. Яны не выкінулі з гнязда маленькага бусліка, а таму ў нас добры, хлебны год.

Дзякуй вам, буслы!..



## ДЗЕ РАСЦЕ СМЯТАНА?

Палявою дарожкаю мы з дзедам ішлі ў жыта.

— Хутка нальюцца каласы,— сказаў стары.

— А чым яны нальюцца? — пытаюся.— Вадою з рэчкі Шачы?

— Рэчка Шача поіць лугі, а жыта ад рэчкі далёка,— гаворыць ён мне.— Каласы нальюцца сонцам і зоркамі, нальюцца сокамі зямлі і малочнымі зярнятамі... Нібы дзетак, вецер будзе калыхаць спелыя каласы. Яны дадуць нам збожжа.

Палявая дарожка прывяла нас у ячмень. У яго вельмі вусатыя каласы.

— І яны налітыя сонцам і зоркамі?

— А як жа, налітыя,— адказвае сівы чарадзей.— Не было б сонца і зорак — жыцця не было б на зямлі. Нішто б не вырасла. Сонца ў кожным коласе жыве.

— І ў гэтым?

— І ў гэтым жыве.

Я гладзіў рукою вусаты колас, доўга разглядаў яго, але не бачыў у ім сонца.

— Вунь яно,—паказваю пальцам у неба,—а ў коласе яго няма.

— Як гэта няма? А во глядзі: у вусіках яно іскрыцца, даспеліць зярняткі ў коласе, а ён дасць нам мукі на бліны. Тут растуць нашы бліны...

«Калі растуць бліны, дык і смятана недзе расце? — думаў я.— Люблю бліны са смятанаю...»

— А дзе смятана расце? — пытаюся.

— Хадзем, пакажу,— і вядзе стары мяне лугавою сцежкаю ў лазовыя кусты. Тут пасуцца каровы. І наша Лысуха ў чарадзе.

— Бачыш, як Лысуха языком косіць траву?

— Ага, бачу,— адказваю.—Добрая трава вырасла.

— З дзятлоўнікам, з пырнікам трава. Наесца Лысуха гэтай травы — дасць вядро малака, а з яго будзе табе сырок і смятана. Зразумеў?

— Ага, зразумеў! — адказваю.— У гэтых кустах, у траве, на пашы расце смятана! Адгэтуль наша Лысуха прынясе мне сырок і смятану!



## ЗВЯРЫНАЯ ПОМСТА

Наш дуброўскі ганчар і пчаляр Якуб Саладуха застрэліў у Лаўскім лесе тую мядзведзіцу, якая zвалакла з хвоі каранік, разбіла яго і высмактала пчаліны мёд. Маленькага яе сынка Якуб Саладуха злавіў і прынёс дадому. Кармілі яго, паілі, даглядалі добра, а ён сабе рос і рос, уваходзіў у сілу. Яго навучылі падмятаць мятлою двор, насіць з копані ваду ў цэбры на ганчарню, дзе стары Якуб ляпіў, апальваў гаршкі, гладышы і макатры. Цяжкаю працаю здабываў свой звярыны хлеб Міхайла. Так празвалі мядзведзіка...

— Міхайла, падмяці!

Ён браў мятлу і падмятаў двор.

— Міхайла, вады!

Ён браў цэбар, ішоў на копань, валок у ганчарню поўны цэбар вады.

— Міхайла, паскачы!

Ён пачынаў на задніх лапах таптацца, кружыцца, цераз галаву перакульвацца.

— Здароў, Міхайла!

Ён працягваў сваю цёплую магутную лапу, паціскаў худзенькую, сухенькую руку старога Якуба.

Многаму навучылі Міхайлу. Ён быў слухмяны, рахманы, працавіты.

Такім ён быў аж да таго вяселля, якое летнім днём спраўляў Якуб Саладуха, выдаючы сваю самую маладзейшую дачку замуж. У хаце пілі і закусвалі, на двары igралі музыкі, скакалі хлопцы і дзяўчаты.

Усё было добра. Весела было. Міхайла стаяў збоку, пазіраў на вясельныя карагоды. Ніхто чамусьці не прыкмеціў, як адзін дзівак-вясяльчак даў у лапы Міхайлы збанок моцнай медавухі. Глынуў — спадабалася мядзведзю. Да донца выпіў медавуху. Павесялеў. Хітрыя чорцікі ў вачах заскакалі. Перакуліўся цераз галаву, а пасля выхапіў скрыпку з рук музыкі, стукнуў яму срыпкай па галаве. Нібы яму не спадабаўся музыка, нібы ён сам лепш сыграе.

Зарагаталі, зашумелі:

— Прагані яго, Міхайла!

Выскачыў з хаты Якуб Саладуха, загадаў:

— Міхайла, падмяці!

Пачуўшы голас гаспадара, буян прыцішэў, узяў мятлу, намерыўся падмятаць, а пасля адумаўся, падскочыў да старога Якуба ды чарахнуў мятлою па ягонай сівой, шырокай барадзе.

— Ах, зверуга! Застрэлю! — крычаў Якуб.

А Міхайла хітрымі вочкамі пазіраў, нібы хацеў сказаць:

«Сам — звяруга! Цяжкай работай мяне душыў!..»

Лёгка перакульнуўся Міхайла цераз тынок, перамалаціў, ператрушчыў на ганчарні збаны, гаршкі, макатры... Закончыўшы сваю звярыную справу, падаўся ў Лаўскі лес.



## ЛІПА

У нас каля студні стаяла высокая, лапушыстая ліпа. Сваёю зялёнаю кронкаю яна прыкрывала студню ад пылу, ад смецця. Яна засланяла ад буры, ад марозу і тыя чатыры яблыні, дзве грушы, якія стаялі за тынам...

Добрая, родная ліпа майго маленства!

Узлезу, бывала, на самую верхавіну, а мне далёка-далёка відаць, дзе што робіцца... Вунь узняўся пыл над палявой дарогай, а праз густы, жоўты пыл сунецца цыганская фура, за ёю ідуць цыганы, цыганкі. Яны будуць варажыць нашым бабам, мужыкам, дзяўчатам... Дзед казаў, што і яму, калі ён быў дзецюком, варажыла цыганка. Глядзела на яго далонь, як у кнігу, вадзіла пальцам, як па радках, па кожнай лініі далоні, гаварыла:

— Вось гэта лінія — твая доўгая дарога. Завядзе яна цябе далёка-далёка. Многа пабачыш дзівосаў у белым свеце...

Нахлусіла хітрая цыганка. Дарога не павяла яго далей Лаўскага лесу, дзе ён яшчэ ў маладыя гады капаў, выварочваў карчы, траляваў бярвенні на рум. І ніякіх дзівосаў ён не пабачыў у белым свеце. Толькі адзін раз прысніўся чорны бугай. Круціць ён хвастом, грабе капытамі купіну, наставіў вялікія рогі, чмыхае: «Сыдзі са сцежкі! Пракалю! Затапчу!..»

Міхал — за рогі бугая, падняў над сабою ды гэтак чмякнуў аб зямлю — рэчка выбегла з берагоў, заліла лугавіну. Прыбывае вада! Па шыю стаіць ён у вадзе... Нядобры сон. Людзі кажуць: сасніць ваду — пабачыць бяду... Мажа, праўда, а можа, выдумка?..

З высокай ліпы мне відаць, як за лес апускаецца чырвонае сонца. Яно недзе там заначуе. Там дзесьці наша рэчка пачынаецца. От бы паглядзець, дзе сонца начуе; як яно раніцою расой умываецца? Можа, расы напіўшыся, тоненькая ручаінка паўнее, расце, становіцца нашай рэчанькай?..

Папрашу дзеда, пойдзем мы заўтра за сіні лес!..

Берагам ідзём туды, дзе сонца начуе, дзе пачынаецца наша ціхая, шчырая рэчанька. Лагодны ветрык павеяў. Нас ахінуў густы, моцны водар чарэмшыны. Дзед прынюхаўся, сказаў:

— Пачнуцца чарамховыя халады. Пачынае чарэмшына зацвітаць — пачынае халадок за шчокі шчыпаць. Кожнаму кусціку, кожнаму дрэву — свая пашана і цана... Бяроза напоіць сокам, рабіна дасць даспелых чырвоных ягад. Гэта добра. А найлепшая дабрата ў ліпы. Ліпа зацвіла — пчолам мёду дала. Адна наша ліпа дае мёду больш, чым тры загоны

грэчкі, калі яна ўлетку забялее, як свежая пароша...

Выйшлі [redacted] Лаўскага лесу, а за гэтым лесам лугавіна, за лугавінаю поле, за полем удалечыні сінее другі лес. Над ім чырвонае сонца ціха апускаецца.

Можа, там недзе начуе сонца? Можа, там пачынаецца наша рэчанька?.. Дабяруся і туды! Ад роднай меданоснай ліпы пачынаецца мая дарога. У шырокі свет пайду я па гэтай дарозе.





## ЗАБІЯКА

Калі зайчык радзіўся, трошкі падрос і пачаў бегаць, маці-зайчыха яго павучала:

— Асцерагайся ваўка, асцерагайся лісіцы, асцерагайся савы, асцерагайся чалавека. Хавайся ад іх, уцякай...

Ваўка, лісіцу і саву ён ужо бачыў, ведаў, як ад іх схавацца ў кустах, у маладой руні на полі... Ні дарослага, ні маленькага чалавека зайчык яшчэ ніколі не бачыў, але, калі пачуў мяне,— хуценька зашыўся ў верас і там прытаіўся. Падкраўся я ціхенька і накрыў яго шапкай. У шапцы прынёс дадому зайчыка. Усе былі на сенакосе, а ў хаце я з маім лупатым, шэранькім зайчыкам. Ён з-пад стала, з цёмнага куточка пазіраў на мяне, думаў: «Хто гэта такі? Чаму мне маці яго не паказвала? Можа, ён укусіць мяне?..»

— Дурненькі,— кажу зайчыку,— не бойся, сам укусі,— і кінуў яму пад стол маладзенькую тоненькую моркаўку. Ён далей у куток адскочыў, пасядзеў,

а пасля, асмялеўшы, лапкаю падцягнуў моркаўку, пачаў яе грызці...

Доўга ён прывыкаў да жыцця ў хаце: няма ні кустоў, ні елак, ні бяроз... Куляўся на падлозе, не мог зразумець, чаму такі голы, цвёрды поплаў? Няма на ім травы, красак, зайцавай канюшынкі.

Капусныя лісты, моркаўку, бурачкі прыносіў я ў хату зайчыку. Стаў ён гладкім, сытым, вялікім, рахманым. Моцна мы сябравалі. Ён бегаў за мною. А як наш сабака Тубас падышоў да зайцавых лістоў і канюшыны, пачаў іх нюхаць, заяц спрытна падскочыў і даў яму лапай па вуху:

— Не чапай! Гэта — маё!..

Сабака неяк сарамліва, вінавата адышоў убок, паглядзеў на зайца, а пасля на мяне:

— Разарваць цяпер яго ці пачакаць? — нібыта пытаўся разумны Тубас.— Глядзі, як асмялеў, лупаты! Не, не дарую, пакусаю касавокага!..

З Тубасам я шчыра пагаварыў, і ён супакоіўся. А ўсё больш неспакойным, задзірыстым станавіўся заяц. Ён, мусіць, думаў, што я — галоўны ў хаце. Я ж яго кармлю, паю, абараняю. А калі я яму друг, дык ён — вялікая шышка! Ён — гаспадар хаты!..

Звалі зайца Забіякам.

— Забіяка, пайшлі!..

Ён куляўся за мною з хаты на двор. Убачыўшы чародку курэй, прысеў: «Няўжо гэта такія вялікія вароны? Можа, яны кусаюцца?.. Але ж маці не казала асцерагацца варон... Чаго мне іх баяцца!..»

І Забіяка падскочыў ды — у чародку. Закрычалі,

крыламі замахалі куры — пер'е і пыл па двары!.. Певень, узляцеўшы на плот, перапалохана закрычаў:

— Хто куды, хто куды!

Гэта ён даваў каманду курам: хавайцеся хто куды зможа. Певень яшчэ ніколі не бачыў такога страшнага звера. Ён вунь які! Большы за ката!..

Доўга пазіраў з плота на зайца певень. Бачыць, што страшны звер не кідаецца на плот, а нейкую траўку скубе пад плотам. Асмялеў певень і загарланіў:



— Ку-кара-кі! Ты хто такі?!

Забіяка нават не паглядзеў на гарлапана. Будзе ён, храбры заяц, з такім баязліўцам гаварыць! Яго, храбрага зайца, нават сабака спалохаўся, пабаяўся моркаўку ўзяць!..

Лета аддало збажыну, яблыкі, бульбу і капусту восені, а за спелай восенню прыйшла зіма. Зімовым днём прыйшоў да нас ў хату сусед. Ён зайздроснымі вачыма пазіраў на зайца.

— Прадайце мне вашага Забіяку,— кажа.— Добра заплачу... Наступаюць каляды — а ў мяне няма чаго смаліць. Парсючок мой дуба даў... Зайцова мяса — мне, шкурка — вам... Будзе добры каўнер Антосю,— і пазірае на мяне.— Згода?.. Вядро яблыкаў прынясу. Добра?..

Мне хацелася кінуцца на злоснага суседа, задушыць яго хацелася!.. А каб ты лопнуў ад сваіх яблыкаў!

Прыкінуўся я добранькім, слухмяным, сказаў:

— А няўжо дадзіце вядро яблыкаў?

— Дам! Заўтра прынясу.

А калі ён пайшоў з хаты, калі мы павячэралі ды ўсе палеглі спаць, я ціхенька ўзяў Забіяку, крадком выйшаў з хаты на агарод. За ім пачынаўся поплаў, а далей — кусты. Туды і прынёс я Забіяку.

— Бывай, мой лупаты, шэры!.. Не трэба мне каўнерык. Жыві, мой харошы! — пагладзіў яго доўгія вушы, пушыстую спінку.— Бывай, Забіяка... Бяжы!..

Пусціў яго на снег, у кусты, а ён прысеў, пасля шэранькім слупком стаў на задніх лапах пад кусці-

кам, пярэдняю, кароткай лапкаю памахаў, нібыта хацеў сказаць :

— Бывай, добры чалавечак!

І ціха пакуляўся ў ельнічак. Мяцеліца завеяла яго свежыя сляды...

Калі вы сустрэнеце храбрага зайца — гэта мой Забіяка, якому я не здрадзіў, не прадаў за вядро яблыкаў злоснаму суседу.



## БЕЖАНЕЦ

— У нашага бежанца залатыя рукі,— гаварыў мой дзед.— Трэба табе кадушка — зробіць кадушку. Патрэбны боты — пашые боты...

— А чаму яго завуць бежанцам?

— Таму, што збег з роднай хаты, уцёк ад вайны,— адказваў мне стары.— Першая сусветная вайна прыгнала яго ў нашу вёску. Бег, бег... Вельмі ўтаміўся. Захацелася перадыхнуць чалавеку. Асеў у нашай вёсцы. Куды ж далей бегчы, калі і наперадзе, за нашымі лясамі, ужо была вайна...

Захацелася мне паглядзець на рукі бежанца. Яны ж у яго залатыя!..

Набраўся храбрасці і пайшоў у тую хаціну, у якой жыў бежанец. Адчыніў дзверы, пераступіў парог, стаю, не ведаю, што сказаць чужому чалавеку.

— Ты хто такі? — пытаецца ён.— Дзе жывеш?

— Я — канцавы,— адказваю.—Наша хата ў канцы вёскі. У нас высокая ліпа каля студні.

— Ага, зразумела, адрас дакладны... А чаго ж ты прыйшоў да мяне, таварыш канцавы?

— Прыйшоў паглядзець на вашы рукі. Пакажыце рукі.

— Гэта можна,— кажа бежанец.— Глядзі, калі ласка.

Я пазіраю на яго рукі: парэпаныя, мазолістыя далоні, а зверху на руках нейкія рыжаватыя, выцвілыя валаскі... Зусім не залатыя рукі! Толькі бародка ў бежанца залацістая. Вельмі прыгожая бародка! Стружкі таксама залацістыя. Многа іх. Яны пад варштатам, пад лавай, на лаве, на падлозе... Па калена стаю ў стружках. Пахнуць яны смалою, жывым, спелым борам. Добрыя стружкі!.. А рукі? Звычайныя рукі. На іх мне і глядзець не хочацца.

— Нахлусіў мне дзед,— злуюся.— Дзед казаў: залатыя рукі ў нашага бежанца!..

— Так і сказаў?! — рагоча бежанец.— Залатыя рукі!..

І ён сваімі звычайнымі рукамі шчыра, моцна абняў мяне за плечы. Я адчуў цеплыню ягоных добрых рук не толькі плячыма, а сэрцам, душою. «Мусіць, яны залатыя? — падумаў я.— Можа, дзед праўду казаў? Можа, я кепска, няўважліва глядзеў?..»

Бежанец выкаціў з хаціны на двор новенькую кляновую кадушку. Нахіліўшыся над ёю, ён гукнуў:

— Гатова?!

А з кадушкі рэха адгукнулася яму.

— Дзіва! Кадушка — жывая! Ён у яе жывую душу сваю ўдыхнуў. Можа, залатая і душа ў яго?..

Бежанец паказаў мне цабэркі, вёдры, лыжкі, якія ён зрабіў сваімі рукамі. А пасля дастаў ён з чорнага футаралу скрыпку. Сеў на тыя пахучыя стружкі на лаве, залацістай бародкай прыціснуў скрыпку і зайграў. То ціхай крынічанькай плылі хвалі музыкі, то



навальнічнай бураю бушавалі. То ціха плакала і галасіла, то весела радавалася, спявала тая скрыпка. І калі яна галасіла,— перада мною праплывала тая труна, у якой ляжаў дзядзька Даніла. Ён са зруба зваліўся на бярвенні і паламаў ногі, разбіў галаву. На могілкі ён, як у чаўне, ціха плыў у труне. За трунаю ішлі яго сыны, дочкі, суседзі. Яны ціха плакалі, а жонка галасіла... Таксама плакала, галасіла скрыпка. А калі яна пачынала радавацца, спяваць,— мне прыгадвалася вяселле ў нашага суседа, Астапа Селівончыка, які выдаваў замуж сваю дачку Мальвіну. На вяселлі было весела, радасна... Таксама радавалася, весела пела скрыпка бежанца. Я ніколі не чуў, каб так смуткавала, радавалася, гаварыла скрыпка, як жывая... Можа, калі рабіў яе, дык тады яшчэ бежанец у скрыпку ўдыхнуў сваю жывую душу?..

Ён мне падарыў выразаную з дрэва зязюлю, у якой былі ножкі, крыльцы, галоўка і хвосцік. І зязюля была, як жывая: падзьмеш у хвосцік — закуе: ку-ку, ку-ку...

Праўду дзед гаварыў: залатыя ў бежанца рукі! І не толькі рукі. У яго залатая душа!..



## ДЗЕДАВА ЯБЛЫНЬКА

Ні ў Лаўскі лес, ні да рэчкі Шачы я ўжо не хаджу з маім добрым, разумным дзедам. Ён памёр. За два дні да смерці ён яшчэ раз сасніў таго самага чорнага бугая, якога, схапіўшы за рогі, падняў над сабою, а пасля гэтак чмякнуў аб зямлю — рэчка выбегла з берагоў... Гэта быў дзедаў першы сон. У другім сне за ўсё сваё жыццё ён таксама спаткаўся, счапіўся з тым чорным бугаём, але ўжо ён падняў дзеда на рагах і гэтак грукнуў аб поплаў — рэчка выбегла з берагоў, заліла кусты, вербы, каліны на зялёным лузе. Дзед рукамі хапаўся за тыя кусты і каліны, а вада расла, бушавала, пенілася, адрывала старога ад калін і кустоў, несла, гнала яго ў чорны, глыбокі вір, які пенаю кіпеў, слупамі сінімі, белымі ўздымаўся высока, высока...

— Пазавіце папа,— сказаў стары,— буду паміраць... Баліць сэрца. Чорны бугай рогам пракалоў мне сэрца!..

Ён цяжка дыхаў, яму не хапала ў хаце паветра. Мы вынеслі яго і паклалі на ложку пад нашай высокай ліпай. Яна была ў жоўтым цвеце, пахла мёдам, у яе кроне гудзелі пчолы. Замешанае мядовым водарам паветра не памагала старому. Ён хапаўся сухою, мазолістай рукой за грудзі, шаптаў:

— Баліць сэрца... Бугай рогам пракалоў мне сэрца...

Каля нашага двара спыняліся цікаўныя, спагадлівыя вяскоўцы, цераз тынок пазіралі на ложак, на якім паміраў іх сусед.

Уся вёска ўжо ведала, што яму бугай рогам пракалоў сэрца...

Памёр ён вельмі ціха. Заснуў і не прачнуўся. На двары, каля той жа ліпы габлявалі дошкі, стукаў малаток, забіваючы цвікі ў труну, але ўжо нічога не чуў худзенькі, сухенькі, пажоўклы дзядок. Я глянуў на яго і вачам сваім не верыў: няўжо гэта той асілак, які мог з Лаўскага лесу хвою прывалачы?..

Правады ў апошнюю дарогу. У хаце, на двары ў нас многа людзей. Пахне дзеразою, яловымі лапкамі. Я прынюхаўся і здзівіўся: чаму яны не так пахнуць, як у лесе, у свята ці на вяселлі? Там у іх нейкі вясёлы, свежы, прыемны водар. А тут, на пахаванні, пахнуць яны неяк вельмі саладкавата, нуднавата. Нейкі шчымлівы, жалобны, хаўтурны пах... Няўжо і гэтыя зялёныя яловыя лапкі сумуюць, шкадуюць, што памёр мой дзед Міхал?..

Ні ў Лаўскі лес, ні на рэчку Шачу не ходзіць ён са мною другі год. Нельга падняцца яму з магілы...

— Сёння радаўніца,— кажа маці,— пойдзем на дзедаву магілу, сынок.

На могілках вельмі многа людзей. Пад ялінамі, бярозамі, рабінамі, пад меднастволымі соснамі, каля магіл сядзяць старыя, маладыя, дзеці. Некаторыя мужчыны і дзецюкі, прыгубіўшы келіхі, павесялелі, гамоняць, смяюцца... Радаўніца!

Бацька напаўняе моцнай медавухай чарачкі, кажа:

— Глынём за дзеда... Сёння радаўніца.

А мне сумна, самотна. Я сяджу на траве пад бярозаю і думаю: «Які ж гэта дурань прыдумаў радаўніцу? Чаго ж радавацца, калі дзед у магіле?..»

Прыкмеціўшы маю самоту, каб трошкі падвесяліць мяне, бацька паказвае на маленькую яблыньку, што вырасла каля самай дзедавай магілы.

— Глядзі, якая купчастая, вясёлая яблынька! Вырасце — дзеду будзе атрасаць з галін яблыкі. Гэта дзедава яблынька...

Калі зацвіталі сады, я пабег на могілкі, каб паглядзець на тую яблыньку. Убачыў — радасна стала. Ранішняй расой умытая, вясёлая, у ружаватым цвеце, стаяла яблынька.



## НА ВОЎЧАЙ ГРАДЗЕ

Не з дзедам, а з бацькам ужо хаджу я ў Лаўскі лес, на Воўчую Граду, дзе чамусьці вельмі мала ваўкоў, а глушцоў, цецерукоў, касуль многа.

Мой бацька — паляўнічы. Ён застрэліў нават лася! Дадому на санях прывезлі яго, цыбатага, рагатага, гарбаносага. Гэта было напрадвесні. У той час у нашай вёсцы стаяў невялікі атрад польскіх жаўнераў. У нашу хату зайшлі два ўзброеныя салдаты.

— Дзе лось? — спытаўся суровы жаўнер.

— Няма лася,— сказаў бацька.— Уся вёска частавалася. У людзей няма чым закрасіць капусту ў гаршку. І парсючкоў, і кароў з'ела акупацыя.

— Акупацыя?! — закрычаў люты жаўнер.— Я табе пакажу акупацыю!

Ён бізуном секануў бацьку па плячах.

— Дзе фузея?

Бацька з каморы прынёс стрэльбу. Забраўшы яе,

салдаты выйшлі з хаты, а бацька пайшоў да пана Пуцяты, якому насіў у маёнтак рыбу, качак, цецерукоў абменьваць на соль, газу, мыла. Пану трэба былі балотныя, лясныя птушкі, а таму ён і напісаў галоўнаму начальніку цыдульку, у якой прасіў аддаць «фузею майму паляўнічаму, пану Бялевічу». Сеўшы верхам на каня, прычапіўшы да гузіка добры кавалак сала, бацька паехаў у мястэчка Шацк, дзе тады была польская камендатура. Туды і зайшоў бацька. У яго на гузіку вісеў шырокі брус добрага сала. Начальнік адразу сала прыкмеціў. А як жа яго не прыкмеціць, калі той шырокі брус усе грудзі засланяе! Прачытаў начальнік панскую паперку, усміхнуўся, сказаў:

— Ого! Сам Пуцята просіць?..

— І сала просіць,— сказаў бацька і паклаў той брус на стол. Начальнік прыкрыў сала газетай, а на ражку цыдулькі сваім паслугачам напісаў: «Аддаць фузею панскаму паляўнічаму, пану Бялевічу!»

У бацькі — двухстволка, у мяне — аднарульная. Каваль Дзяніс зрабіў мне стрэльбу. Яна, праўда, не страляе, але добрая стрэльба: драўляны прыклад, жалезная трубачка, курок, мушка... Сапраўдная стрэльба!

Лясная дарожка вядзе нас на Воўчую Граду. Направа — ельнік, налева — ельнік. Глухмень! Нейкае ліпкае, вільготнае паветра.

— У гэтай цемры не пачуеш салаўя,— кажа бацька.— Тут толькі сычы сыкаюць ды ўначы совы гукаюць, рагочуць. Салаўі чамусьці ахватней, друж-

ней спяваюць у дубровах, у светлых бярэзніках, на вербах і на калінах каля рэчак і азёраў. А хто тут будзе слухаць салаўя? Жывое душы няма. Салавей хоча, каб яго слухалі людзі, сонца. А тут ні людзей, ні сонца. Цемра!..

Змяркалася, калі мы прыйшлі на Воўчую Граду. Тут неяк вусцішна, таямніча. То ў адным, то ў другім месцы сава зарагоча, ды зноў ціха. І толькі па росных лугах, па рачулках і крыніцах далёкі гул царкоўных званоў даплывае: гэта ў нашай цэркаўцы на ўсяночную сабраліся дубраўчане, а мы з бацькам у лесе каля агеньчыка сядзім, на ядлаўцовых ражнах скваркі смажым над полымем.

— Кажуць, што грэх скароміцца да свянцонага яечка,— гаворыць бацька,— але мы ў цёмным лесе, поп не ўбачыць, богу не данясе. Хай кудлаты хітрун-бацюшка ў царкве кадзілам махае, дым у вочы бабам пускае, а мы тут пасядзім, на неба паглядзім, ранішняй зоркі прычакаем, глушца прывітаем.

Так ён любіў гаварыць складна. Мусіць, ён навучыўся ў паляўнічага Мохарта, які сам выдумляў, складаў розныя цікавыя казкі, а пасля расказваў іх мне.

На світанку, па халоднай расе, пайшлі мы на імшарыну, на такавішчы глушцоў. Бацька спыніўся, прыслухаўся, насцярожыўся.

— Чуеш? — пытаецца.— Пяе!

Я прыслухаўся, але не пачуў песні. Пачулася мне толькі нейкае хрыплаватае сіпенне, глухаватае чучухканне. Хіба ж гэта песня?! Маленькі верабей

гучней за вялікага глушца чырыкае! Не такой песні я чакаў ад глушца!

Бліжэй, бліжэй падыходзім. Яшчэ не відаць глушца, толькі чуецца ягоны голас.

— Спыніся,— кажа бацька.— Стой... Трэба ціханька, хітранька да яго падысці.

Я стаяў і пазіраў на бацькоўскія хітрыкі: пачынае глушэц шыпець і чучухкаць,— паляўнічы подбегам, подбегам падскоквае да яго. Спыняецца песня — спыняецца паляўнічы, стаіць, не варухнуўшыся, прытаіўшы дыханне.

Услед за бацькам — подбегам, подбегам... Што такое? Чаму бацька сеў на купіну і закурыў? Чаму не чуваць глушца?

— Дзе глушэц? — пытаюся.

— Сам ты — глушэц! — злуецца бацька.— Я табе казаў стаяць. А ты не пад песню ступіў,— ён пачуў, паляцеў. Ён нічога не бачыць, не чуе толькі тады, калі спявае. Так захопіцца, захлынецца песняю,— бяры яго рукою за хвост!.. Самая асцярожная, пільная птушка — глушэц. Толькі на такавішчы, калі ён песню выклікае, падзывае да сябе сваю сяброўку, можна падысці да хітрага глушца.

А я падумаў: «Дык які ж дзівак гэткую чуткую птушку назваў глушцом? Ён — хітрэц, а не глушэц!..»

Над імшарынай паднялося сонца, нідзе ўжо не такавалі глушцы, калі мы вярталіся на Воўчую Граду. Раптам з хмызняку выскачыў воўк і пабег у ельнік. Мы зайшлі ў той калючы, глухі хмызняк, а там,

зашыўшыся ў мох, ляжыць нейкі худы, кудлаты, аблытаны павуцінаю, воўк. Падышлі блізка,— не ўцякае. Бацька агледзеў яго і кажа:

— Гэта — ваўчыца. Вельмі старая. У пашчы іклы павыпадалі. Запаўзла сюды канчацца.

Злоснымі вачыма на нас паглядзела ваўчыца, але падняцца ўжо не магла.

Пад вечар мы зноў прыйшлі туды; зноў з хмызняку выскачыў той самы падгалы, лабасты, магутны воўк. Трохі адбег і стаў. Зыркае лютымі вачыма. Бацька зняў з плячэй стрэльбу, а шэры разбойнік кляцнуў ікламі, скочыў у цёмны ельнік.

— Глядзі,— паказаў бацька на акрываўленае пер'е.— Раніцою тут яго не было.— І падняў пёрка.— Недзе хворага ці соннага цецерука прыдушыў, сюды прынёс падгалы... От шэльма! Ён гэту старую ваўчыцу корміць. Яна б даўно кончылася. Сама нічога злавіць не можа.

Зняў з плячэй стрэльбу, прыцэліўся ў лабастую галаву, але чамусьці марудзіў, не страляў.

«Чаму ён не страляе? — думаю.— Няўжо яму шкада аднаго патрона?»

— Страляйце, тата! Патронаў шмат...

Ён пакруціў галавою, павесіў на плячук стрэльбу. Маўчаў, у задуменні пазіраў на старую, худую ваўчыцу.

— Патронаў шмат,— ціха гаварыў ён.— Шмат ваўкоў забіў. А ні разу не бачыў, як ваўкі ад старасці канчаюцца. Бачыш, куды схавалася, як у хмызняк, у мох зашылася, каб ніхто не бачыў, як яна,

старая, хворая, памірае. А ён, яе верны друг, падгалы воўк, усё добра бачыць, усё ваўчыным сэрцам разумее... Дружба... Любоў... Рукі апускаюцца. Нельга страляць у дружбу і любоў.

І чамусьці мяне кранулі гэтыя словы. І я вельмі быў удзячны бацьку за тое, што ён не стрэліў у старую ваўчыцу.



## РУСАЛЧЫНА АЗЯРЦО

За вёскай, за полем, на лузе было невялічкае азярцо, атуленае лазовымі кустамі, лапушыстым алешнікам. Пад купчастай алешынай з яловых лапак змайстраваў бацька буданчык. Яшчэ на світанку залезлі мы ў той буданчык, прытаіліся там, чакаем дзікіх качак. Чакае іх і наш сабака Тубас. Ён будзе з азярца выносіць падстрэленых качак. А яны чамусьці марудзяць, не прылятаюць. Мы ўжо хацелі вылазіць са свае схованкі, але пачуўся пошум, свіст крылаў, і чародка качак пляснулася на ваду. Далекавата ад берага плаваюць, ырцуюць, харчуюцца качкі.

А калі бацька кракнуў у ражок, які яму зрабіў бежанец, ад чародкі адлучыўся качар:

— Кра, кра,— плыве.— Кра, кра. Хто мяне клікаў?

— Кра, кра,— заве ражок.— Бліжэй падплывай!

А калі ён падплыў бліжэй, бацька прыцэліўся,

стрэліў. Чародка ўспырхнула, прашумела, прасвісцела крыламі над азярцом, знікла ўдалечыні. Падстрэлены качар таксама залапатаў крыламі, узляцеў, а пасля чмякнуўся ў зялёную раску на ціхім азярцы. Паплыў туды Тубас, доўга там пялёскаўся, але качара не прынёс.

— Можа, ты кепска шукаў, Тубас?

Неяк сарамліва, вінавата ён паглядзеў на бацьку, вільнуў хвастом, нібыта сказаў:

— Можа, ты кепска страляў? Няма там качара.

— Шукаць! — загадаў я Тубасу, а ён неяк насмешліва наморшчыў свой мокры, чорны нос, зласнавата паглядзеў, нібыта сказаў:

— Сам пашукай, падшыванец! Знайшоўся мне камандзір!..

От хітруга! Ведае, каму што сказаць.

— Добрай раніцы, паляўнічыя! Многа напалявалі? — падышоў да нашага буданчыка таўстун, весялун, казачнік Мохарт. Ён быў падпяразаны патранташам, за плячыма вісела новенькая стрэльба, паляўнічая торба, але ў ёй пуста.

А ён паляўнічы — ого! Аднарукі, а страляе, як бы ў яго чатыры рукі, чатыры вокі! Ён пацэліць у чмяля, калі той узляціць з кветкі! Во які Мохарт!

Даведаўшыся, што Тубас не знайшоў качкі, Мохарт задумаўся, а пасля неяк таямніча сказаў:

— Тубас не вінаваты.

— А хто?

— Русалка!

— Якая русалка?

— Тая русалка, што ў возеры жыве.

Бацька добра ўсміхаецца, а Мохарт нейкі таямнічы, загадкавы. Мне і страшнавата, і цікаўна.

— Вы бачылі русалку, дзядзька Мохарт?

— Бачыў! А хто ж маю качку схапіў? Глядзі,— пустая торба... На азярцо апусцілася чародка. Я чарахнуў: пер'е ўгору, мяса ўніз! Пасылаю сабаку забраць застрэленага качара, а яго няма. Дзе ён падзеўся? Пазіраю: нейкае белае воблачка праплывае па вадзе. Дзіўнае нейкае воблачка: дзве касы, дзве рукі, дзве нагі... Русалка! Схапіла качара, плёхнулася пад ваду і туманам накрылася. Глядзі, колькі туману пусціла. Гэта русалчына белае палатно...

Я ведаў, што дзядзька Мохарт можа прыдумаць цікавую казку. Некаторым казкам верыў і не верыў. А гэтай паверыў. Сам я добра бачыў, як у азярцо ўпаў падстрэлены качар. Дзе падзеўся ён? Мусіць, схапіла яго русалка...

Развітаўшыся, добры Мохарт пайшоў на свой хутар, а мы ў вёску. Прыгрэла сонца. Русалчыны палотны белымі сувоямі, воблачкамі туманоў пакаціліся па роснай траве да алешніку, да ціхага азярца.

Над поплавам кружыліся, кігікалі, плакалі кнігаўкі. Яны баяліся, хаця б мы не разбурылі іх гняздзечкаў на купінах у траве. Яны апускаліся, беглі па траве, прыкідваліся, што не ўмеюць лятаць, што іх можна злавіць. Мы з Тубасам беглі за імі, а яны хітра адводзілі нас у бок ад сваіх гняздзечкаў. А калі сабака знайшоў адно гняздзечка на купіне, на яго храбра апусцілася кнігаўка. Яна ўзлахмаціла пер'е,

каб стаць большай, страшнейшай, каб напалохаць сабаку.

— Не падыходзь, злыдзень! — нібыта крычала яна.— Адступіся, злодзей!

А ён не адступаў. Яму, мусіць, было сорамна перад намі: маленькай птушачкі спалохаўся!

З усяго поплаву зляцеліся туды кнігаўкі, каб дапамагчы сваёй храбрай сяброўцы ў бядзе. Яны кружыліся над сабакам, нізка апускаліся, кігікалі:

— Уцякай, зладзюга! Задзяўбём, твае косці травою замяцём!..

— Тубас, пойдзем! — гукнуў бацька.

Сабака ахвотна падбег, вільнуў хвастом, нібыта пахваліўся:

— От які я храбры! Не ўцёк! Мяне вы пазвалі, а то б я ім паказаў!..

— А чаму б ім не жыць на балоце, далей ад вёскі, далей ад сабак? — спытаўся ў бацькі.— Нейкія, мусіць, неразумныя гэтыя кнігаўкі?..

— Вельмі разумныя,— гаворыць бацька.— На балоце ў іх больш ворагаў: воўк, лісіца, каршун... Кнігаўкі туляцца бліжэй да вёскі, да людзей. Абараняюць іх людзі ад усялякіх драпежнікаў. На поплаве каля светлага азярца святлей жывецца кнігаўкам.

— А як выйдзе русалка? Яна ж іх пахапае, у возеры ўтопіць?..

— Русалка таксама імі любуецца. Засумуе яна пад вадою, выйдзе на бераг, ахутаецца туманом — белым палатном і сядзіць пад алешынай, пазірае, на белагрудых кнігавак. Надакучыць сядзець — сама

птахай узляціць, крыламі замахае, паплыве, паплыве, прысядзе на каліне, паслухае салаўя ў бярэзніку. А ўздымецца сонейка, зноў яна паплыве, паплыве; белым воблачкам, лёгкім туманом апусціцца на сваё азярцо... Любата!.. Без кнігавак і салаўёў, без бярэзнікаў і русалчына азярца сумнавата б нам жылося на белым свеце.

І мне зноў захацелася пабачыць старога Мохарта, які падарыў мне новую казку пра тое русалчына азярцо.



## МОХАРТАЎ ХУТАРОК

За рэчкай Шачаю, на светлай сунічнай палянцы між Лаўскага лесу, стаіць хутарок добрага Мохарта. Прыйшлі мы з бацькам туды акурат на сёмуху, у зялёнае летняе свята. Пастукалі ў брамку,— выйшаў сам гаспадар хутара.

— Добры дзень, паляўнічыя! — прывітаў нас Мохарт.— Заходзьце! Чакаў. Вельмі рады дарагім гасцям.

Я і сам добра бачыў: не маніць, рады нашаму прыходу. Добра, весела ўсміхаюцца вочы, яшчэ больш паружавеў у твары. Паклаўшы мне на плячук шырокую цёплую далонь, кажа:

— Хадзем, паляўнічы, пакажу табе вясёлага звярка.

Зайшлі ў садок. На яблыні сядзела рыжанькая, з доўгім агністым хвастом вавёрка. Яна з яблыні скочыла на плячук Мохарту. Паглядзела на мяне і зацокала.

— Гэта яна злуецца?

— Гасцінца просіць,— адказвае таўстун.— Пачастуем.

Дастаў з кішэні пінжака арэхаў, насыпаў іх на стол. Вавёрка спрытна схапіла арэх, хуценька разгрызла. Другі, трэці разгрызла, а чацвёрты патрымала ў лапках і адкінула ўбок. Я падняў яго і раскусіў. Ён быў пусты.

— От хітруха! Як жа яна ўбачыла, што ён дупласты?

— Лапкамі ўбачыла,— кажа Мохарт.— Узяла ў лапкі і ўбачыла, адчула: арэх лёгенькі, пусты. Навошта яго раскусваць?



З вялікай цікаўнасцю я глядзеў, як на стале растуць дзве горачкі: адна — шалупіння, другая — пустых арэхаў. І ні разу вавёрка не памылілася, не раскусіла пустога арэха.

От чуйныя лапкі!

То ў лес, то з лесу ў садок прыбягалі шустрыя вавёркі. Яны скакалі з галіны на галінку, бегалі па платах, па двары. Ні сабака, ні кот іх не чапалі. Усе яны жылі ў дружбе, разам гулялі, весяліліся.

«Мусіць, нейкі чарадзей дзядзька Мохарт? — думаў я.— Мусіць, нейкае чарадзейнае, таямнічае слова ведае?»

Ён ціхенька пакурлыкаў: з кусцікаў агрэсту выходзіць жораў. Чэпу-тэпу, важна, спакваля ідзе, цыбаты.

— Журавушка, жуpавель, паскачы,— дам канапель!..

І ён паслухаўся гаспадара! Стаў крыламі махаць, падскокваць на цыбатых, худых нагах.

Паскакаўшы, падышоў да Мохарта, доўгай дзюбаю пачаў даставаць з кішэні нейкія зярняткі, гарошынкі.

Цікавы, нібы харошая казка, хутарок дзядзькі Мохарта! Павёў ён нас у хату, а там таксама вельмі многа цікавага. Да сцяны прымацаваны ласіныя рогі, а на рагах вісяць дзве стрэльбы — новенькая і старая. На падлозе каля ложка разаслана вялікая мядзведжая шкура.

— Дзядзька Мохарт, вы застрэлілі мядзведзя?

— Застрэліў! Ён быў бадзягам... Усе добрыя мя-

дзведзі зімою спяць у сваіх бярлогах, а ён па лесе бадзяўся. Калечыў, забіваў усіх, хто пад яго лапы патрапіць. Прывалокся ён і на мой хутар. Зламаў вароты, зайшоў на двор, патупаў каля хаты, а пасля як грукне лапай у акно,— вылецелі рамы, пасыпалася шкло, белая завіруха ўляцела ў хату.

— Што ж нарабіў, дурань? — пытаюся ў яго.— Адыдзі, а то кепска табе будзе!

Не слухаецца, праз акно ў хату лезе, разбойнік. Што было рабіць?.. Бабахнуў... Табе шкада мядзведзя?

— Ага, шкада. Яму холадна было. Ён хацеў у хаце пагрэцца.

— Ну, не выдумляй. Глядзі, якое пушыстае, цёплае было ў яго футра! Яно цяплейшае за кажух. Ты ж зімою не мерзнеш у кажусе?

Не было яго ў мяне. Халаднавата было ў марозныя зімы ў маёй суконнай, парыжэлай світцы. Вельмі зайздросціў бацьку, калі ён апранаў аўчынны жоўты кажух з чорным кудлатым каўняром. У такім кажусе бацьку цёпла, а ён яшчэ і цыгарку закурыць. Гэта ж, каб яшчэ цяплей было яму. Ідзе сабе праз мароз, праз вецер, а цыгарка агеньчыкам і дымком пых, пых... Добра бацьку: у яго кажух і агеньчык!..

Пачаставаўшы мёдам і малаком, Мохарт правадзіў нас з хутарка да тых стажкоў, што стаялі на палянках у Лаўскім лесе.

— Сваім ласям назапасіў сена,— сказаў Мохарт.— Зімою будуць прыходзіць і скубсці стажкі.

— Дык у вас толькі адзін лось...

— Чаму адзін? У лесе ласёў многа. Прыцісне мароз, мяцеліца засцеле траву. Цяжка яе з-пад глыбокага снегу даставаць ласям. Да маіх стажкоў прыйдуць яны харчавацца, а я буду імі любавацца. Ласі — добрыя, разумныя жывёліны. Дык трэба ж ім разумна рабіць дабро. Зразумеў?

Я зразумеў: шчыры, добры дзядзька Мохарт!



## МАНЖУР

Аднаногага, худога, доўгага, як жэрдка, дзядзьку Піліпа ў нашай вёсцы звалі Манжурам. Чаму яго так звалі? А таму, што яго цар загнаў ажно ў Маньчжурыю з японцамі ваяваць, абараняць царскі трон.

Вярнуўся з вайны ў сваю Дуброўку Манжур з адной сваёй нагою, а другой драўлянай, казённай нагою. Але не вельмі ён гараваў, быў рады, што вярнуўся жывы адтуль, адкуль многія зусім не вярнуліся, ляглі ў цёмныя магілы на далёкай маньчжурскай зямлі.

А ён, бывала, калі на вяселлі ці радзінах вып'е чарачку, калі трохі падвесяліцца, стукне казённай нагою ў падлогу, урачыста аб'явіць:

— Я — Манжур! Я — поўны кавалер!..

А я пазіраў на яго і думаў: «Які ж ты кавалер? Стары, пасівелы — і кавалер? Ніякі ты не кавалер!» А ён падскакваў, як жораў, а на грудзях крыжы і медалі звінелі.

— Я — Манжур! Я — поўны кавалер!..

Мне бацька сказаў:

— У каго чатыры Георгіеўскія крыжы і чатыры медалі — той поўны кавалер.

А мне было смешна: вусаты, шчарбаты кавалер!..

Цікаўныя вяскоўцы, бывала, у яго пыталіся:

— А што тыя японцы ядуць?

— Рыс і гадзюк,— адказваў Манжур.— Усялякіх чарвякоў і жаб. Ластаўчыныя гнёзды, удаваў ядуць.

— Маніш?

— Дальбог!

Мужыкі крывіліся, пляваліся.

— А бульба ў іх ёсць?

— Няма.

— Дык як жа яны жывуць?

— Так і жывуць... Кепска жывуць.

— Ой, кепска! — згаджаліся нашы людзі.— Якое там жыццё, калі няма бульбы.

— А як тыя японцы гавораць?

— Па японску гавораць: кесэ-месэ, окама-тама.

— А як гэта па-нашаму?

— Хто ж яго ведае. Можа, нясі мяса, а магчыма, пайшоў ты да свіной мамы.

— А па-нашаму ні бэ, ні мэ?

— Ні гу-гу! Не ведаюць нашай гаворкі.

Слухалі Манжура вяскоўцы, уздыхалі, спачувалі:

— Божухна! Бедныя людзі. Не ведаюць нашай гаворкі. Як жа яны там жывуць?

— Так і жывуць,— адказваў Манжур.— Кепска жывуць.

І вяскоўцам, і мне таксама вельмі было шкада тых далёкіх, незнаёмых людзей, у якіх няма бульбы, якія не ведаюць нашай гаворкі. Мусіць, і поўны кавалер іх шкадаваў, хоць ён і ваяваў з імі на далёкай маньчжурскай зямлі.



## ВЯСЁЛКА

Самай прыгожай у нашай вёсцы была дзяўчына Параска. Вочы сінія-сінія, як чыстыя нябёсы, а косы доўгія, шаўкавістыя, залацістыя. І твар вельмі прывабны, харошы быў у Парасні. Казалі, што яна ўмылася вясёлкаю, а таму і сама стала такой, як вясёлка.

«Ну, як можна ўмыцца вясёлкай,— думаў я,— калі яна на небе? Хіба ж Параска лазіла на неба?»

Скора разгадалася таямніца. Ясным летнім днём прыпарыла, нахмарылася, пракаціўся гром па хмары, па лесе, па траве, па рэчцы Шачы. Прайшоў цёплы дожджык. Густы, ціхі, вельмі лагодны. Умытая ім, вясёлка залатым вянком ахінула Лаўскі лес, палеткі, паплавы, апусцілася на Шачу. Я добра бачыў, як яна чэрпае ваду з рэчкі.

Уткнуўшы сярпы ў духмяныя, цёплыя снапы жыта, са сваіх загончыкаў да рэчкі беглі дзяўчаты, маладзіцы. Гром паехаў на хмары за лес, выглянула

сонейка, а вясёлка стаяла ў небе, плавала, купалася ў вадзе. Гэтаю вадою з вясёлкаю мыліся дзяўчаты, маладзіцы, каб стаць такімі красунямі, як Параска.

Да паспелага жыта ішлі жнеі памаладзелыя, вясёлыя, харошыя. І не дзіва! Яны ж умыліся вясёлкаю. А яна мне ўночы прыснілася. Нібыта ў рэчку я



ўлез, а вясёлка сваім залатым каўшом падхапіла мяне, узнесла ў высокае неба. Па дарозе залатой іду над лугам. Мне добра відаць, як зялёныя конікі скачуць у траве, як белагрудыя кнігаўкі ўзлятаюць, як цыбатыя буслы ходзяць, як нашы людзі косяць, грабуць сена, стагуюць стагі... А ўжо залатая дарожка вядзе мяне над полем. Там жнеі жнуць жыта, вяжуць яго ў снапы, ставяць іх у мэндлікі. Хараша ў полі!.. Нібыта паўмесікі, пабліскваюць срабрыстыя сярпы ў жыце. Па разорах бягуць перапёлкі, хаваюцца пад кудлатымі межамі. З-пад іх узлятаюць жаваранкі, трапечуцца над снапамі, над жнеямі, над жніўнымі песнямі ў спелым полі. Залатая дарога вядзе мяне над лесам, над яснымі палянкамі. У роснай траве чырванеюць, іскрацца даспелыя суніцы. У маліннiку мядзведзь частуецца салодкімі сакавітымі ягадамі. Мне відаць, як пярэсты дзяцел шчыруе на сасне, а пад ёю варушыцца, кіпіць мурашнік. Вавёркі бегаюць па галінах дрэў, па імхах баравых...

Хараша ў лесе!

А ўжо нібыта я сам стаў вясёлкай. Залатым вянком ахінаю лес, поле, родную вёску. Зялёныя, ружовыя, сінія, чырвоныя паясы, стужкі, хусціны кідаю з неба дзяўчатам, маладзіцам, каб яны ўсе такімі прыгожымі былі, як Параска, першая чараўніца нашай вёскі.

Адарыўшы ўсіх яснаю красою, я прачынаюся. Мне вельмі радасна і весела.



## ВАРОНА

Недзе я пачуў такое: «Дурны мужык, як варона». Я чамусьці адразу тады падумаў пра Варывона Высеўку. Ён быў нейкі трохі дурнаваты, гультаяваты. Здаровы, магутны мужык, а рабіць лянуецца. У людзей на полі яравіна рунее, а Варывон яшчэ плуга баразною не абчысціў.

— Варывон, не лічы варон! — гукае яму цераз тын сусед.— Сеяць пара!

— Ага, трэба будзе падумаць,— адказвае Варывон, апёршыся на старэнькі, трухлявы плот.— Пасеецца, паспеецца.

У людзей яравіна ў трубачку выходзіць, а ў Варывона вераб'ю па калена ўсходы. Ужо зімою, адразу пасля каляд, упрочкі пайшоў хлеб з Варывонавай хаціны. Далёка да вясны, а ў Варывона ні мяшэчка сена. Рыкае ў хляве галодная карова. Ён бярэ яе за рогі і валачэ ў дзіравае гуменца.

— Рыкала, падла? Рыкала! — гаворыць ён каро-

ве.— Я ж не скупы, не шкадаваў. Глядзі, лупатая! Бачыш, пуста, ні саломінкі, ні сянінкі. Маўчы, не мычы, шэльма!..

У хлеў карову зноў за рогі цягнуў Варывон.

«Няўжо такая дурная і варона, як гэты мужык? — думаў я.— Не, няпраўда. Варона разумнейшая за Варывона!»

Яна зімою часта садзілася на нашу голую, пачарнелую, высокую ліпу і адтуль выглядала, што робіцца ў нашым двары, што можна схапіць, украсці ў свіней з карыта. Калі бацька выходзіў з хаты на ганак са стрэльбаю, варона, злосна каркнуўшы, лёгка ўзлятала з верхавіны, знікала за суседнімі хатамі. Калі ж бацька браў чапялу ці качаргу і выходзіў з хаты на ганак, варона спакойна сядзела на ліпе, нават і не думала ўзлятаць.

— Варона — шэльма! — гаварыў бацька.— Яна ведае, што качарга не выстраліць.

Я падыходзіў да ліпы, стукаў качаргою па ствале, а варона сядзела, не ўцякала, паглядала ўніз на мяне і нібыта ўсміхалася:

— Солі ты мне насып на хвост!..

А знайдзіце вы гняздо вароніна ў лесе. Ні ў бярэзніку, ні ў вербалозніку яна яго не зробіць. Варона і ў цёмным ельніку аблюбуе такую густую, змрочную елку, што праз калючыя лапкі да гнязда вельмі трудна дабрацца. А калі, абкалоўшы рукі і твар, дабраўся, варона смела кінулася на мяне, закрычала, паклікала сваіх сяброўак на дапамогу.

— Кр-ра! Кр-радуць! — крычала.— Р-ратуйце!..

І, мусіць, з усяго лесу да той цёмнай, калючай елкі зляцеліся вароны, чорнай хмарай навіслі над маёй галавою. Яны крыламі шасталі, крычалі:

— Кар-равул! Кр-радзе!..

А хіба ж я злодзей? Я хацеў паглядзець на вароніны яечкі...

Нават старога, добрага дзядзьку Дзямяна абхітрыла варона. Вудзіць ён на Шачы рыбу, а варона з елкі сочыць за рыбаловам. Вунь ён падчапіў на кручок, кінуў на траву краснапёрку. Зноў начапіў на кручок зялёнага коніка, зноў вудзіць, глядзіць на паплавок. Варона ціхенька зляцела з елкі і спрытна схапіла ў траве краснапёрку. Адскочыла зладзейка, прытаілася за кусцікам. Выкінуў на бераг Дзямян плотачку, а варона і плотачку ўкрала, адскочыла, прытаілася за кусцікам. Ён ловіць, а варона крадзе. Яна добра бачыць, што ён глядзіць на паплавок, што ён захапіўся лоўляю і больш нічога не прыкмячае, не ведае, што робіцца за ягонымі плячыма.

Няпраўда, што варона дурная! Яна хітрэйшая за мужыка Варывона, які карову за рогі цягне ў гуменца, каб ёй паказаць, што там ні саломінкі, ні сянінкі.



## ЖУРАЎЛІНАЕ БАЛОТА

Звалі яго ў нас і Шалёным балотам.

Шалёны воўк выскачыў з хмызнякоў на поплаў і ўкусіў Дзяніса Жыбурта, калі ён, добра накасіўшыся, ляжаў на свежым пракосе. Жыбурт схапіў ваўка за вушы, але яны ў яго былі нейкія слізкія, кароткія.

Ён вырваўся, адскочыў ды зноў кінуўся на Жыбурта. Схапіў ён звера за горла і пачаў дужымі рукамі душыць. Доўга качаліся па траве, але магутны касец перамог, задушыў ашалелага злыдня. Пасля гэтай схваткі Жыбурт яшчэ прайшоў пракос, але рана вельмі шчымела і, пакінуўшы касьбу, ён прываloкся дадому.

Ад хаты да хаты хуценька пабегла пагалоска:

— Шалёны воўк укусіў Дзяніса.

Суседзі, блізкія, канцавыя жыхары вёскі прыйшлі паглядзець на пакусанага чалавека.

— Гладыш кіслага малака трэба яму выпіць,—

гаварыў барадаты бортнік Талапіла.— Кіслае малако ад гэтага памагае.

— Трэба ў лазні яго добра папарыць, бярозавымі венікамі пахвастаць,— параіў сухенькі дзед Плісаўка.— Распараным венікам усякую хваробу можна выгнаць.

Многа было парад, павучанняў.

Шмат дзён, шмат тыдняў Дзяніс Жыбурт піў кіслае малако, у лазні парыўся, бярозавымі венікамі хвастаўся, рознымі траўкамі, зёлкамі лячыўся. Нічога не памагло. Худнеў, чарнеў чалавек.

Восенню, калі пачалі жоўкнуць лісты на бярозе ў двары Жыбурта, самога яго засыпалі жоўтым жвірам пад бярозай на могілках...

Можа, таму Жураўлінае балота звалі ў нас і Шалёным балотам. Толькі шалёных ваўкоў там больш не было. На Жураўліным балоце было многа жураўоў. Яны восенню, калі мы пачыналі капаць бульбу, уздымаліся з пажоўклых кустоў, кружыліся, сумна курлыкалі, шчымлівай песняй апякалі сэрца. Шкада ім было пакідаць сваё журавінавае, сваё жураўлінае балота.

Вясною, калі мы пачыналі сеяць авёс, калі яшчэ было вельмі вільготнае, халоднае поле, журавы вярталіся з выраю, таксама курлыкалі над сваім балотам, але іх песня не была такой журботнай і пякучай, як увосень. Яны ж прыляцелі дадому, на сваё роднае Жураўлінае балота!..

А ці былі вы там, ці бачылі сівых жураўоў? Не вельмі іх убачыш. Можна лёгка знайсці гняздо рах-

манай кнігаўкі, хітрай качкі, а жураўлінага — не шукайце, не знойдзеце. І ранкам, і днём бегаў я туды, шукаў, а дарэмна. Нічога не знайшоў. Нават самога цыбатага жорава нідзе не ўбачыў. Мусіць, ён сам першы мяне ўбачыў, дзесьці хітранька зашыўся, ціхенька, умела прытаіўся ў хмызняку.

— Бегаючы, шастаючы — не знойдзеш жорава,— гаворыць бацька.— Ён добра чуе, далёка бачыць. Трэба прытаіцца, пасядзець, высачыць. Я табе пакажу, як гэта робіцца...

Калі добра змерклася, адправіліся мы на Жураўлінае балота. Выбралі густы, лапушысты лазовы куст. Залезлі ў яго, сядзім, світанку чакаем. Ранень-



ка журавы будуць карміцца, тады мы іх убачым. Узышло сонца, а яны чамусьці не кормяцца.

— Можа, тут іх зусім няма?

— Яны нас пачулі, прыкмецілі, калі мы ў гэты куст залазілі,— адказвае бацька.— Трэба ціхенька ў другое месца перапаўзці.

Па імшарыне ціхенька перапаўзаем у другі зялёны лапушысты куст. Да самага вечара сядзім, чакаем. Ціха, глуха на балоце. Непадалёку ледзь-ледзь скалыхнуліся галінкі нізкага вербалозніку. Бачым: ціхенька, асцярожна, прыгорбіўшыся, патэпаў жораў. Трохі адышоўшы, ён узляцеў, паплыў над кустамі. Паляцеў харчавацца.

Падпаўзаем да таго ракітніку, адкуль ціхенька выйшаў жораў. Дачакаўся я радасці! Атуленае вербалознікам, у густой траве гняздо, а ў ім маленькія, яшчэ голенькія жораўчыкі. Ніколі яшчэ я такіх маленькіх, дзюбаценькіх, цыбаценькіх не бачыў...

Адпаўзлі мы да свайго лазовага куста, сядзім, чакаем прылёту старога жорава. Бачым, ляціць. Далекавата апусціўся. Ціхенька, пяшэчкам ідзе да гнязда. Пастаяў, паслухаў, паглядзеў наўкола і асцярожна палез у вербалознік, а мы пайшлі дадому.

— Дабранач, Жураўлінае балота!..

Прыйшла даспелая пажоўклая восень. У вырай на крылах панеслі журавы бабіна лета. У яго белым павуцінні заблытаўся адзін жораў. Ён, мусіць, быў вельмі стары і слабы, а таму не мог плысці ў шнурочку жураўліным, апусціўся на сваё роднае балота. Там я і злавіў недарэку. Прынёс яго дамоў. Пусціў

у садок, агароджаны тынам. Паставіў там два карытцы: адно для яды, другое для вады. А калі пачалі ранішнія замаразкі кусацца, перавёў я жорава з агародчыка ў хату. Засумаваў ён у хаце. Залезе пад стол і сядзіць. Няма над ім высокага неба, няма сонца і зорак. Турма!

— Не гаруй, жораў! — падбадзёрваў я старога.— Адгрукаюць маразы, прыйдзе вясна, прыляцяць твае сябры з выраю. Разумееш, жораў?

Мусіць, разумеў: вылазіў з-пад стала, узлятаў на лаву, доўга праз акно пазіраў у неба.

Карміў я свайго жорава хлебнымі крошкамі, аўсом, просам, грэчкаю, канаплямі. Ён вельмі любіў грэчку. Авёс і хлебныя крошкі дазваляў падзяўбаць курам і залацістаму пеўню з чырвоным грабянцом, як ружа, а да грэчкі іх не падпускаў. Не спадабалася гэта задзірыстаму пеўню. Ён нават аднойчы наскочыў на жорава, а той дзеўбануў яго ў грэбень так моцна, што ён яшчэ больш пачырванеў, а пасля пачарнеў, абвяў. З гэтага часу павадыром курэй стаў жораў. Калі пацяплела, добра прыгрэла сонца, ён выводзіў курэй на двор, вёў іх на прыгуменне, а пасаромлены певень валокся збоку, баяўся далучацца да чародкі.

А як прыляцелі, заспявалі ў небе жаваранкі, павесялеў жораў, але сам не спяшаўся ўзлятаць у неба. Ён трохі аблянеў, атлусцеў, прывык да лёгкага хлеба. Яму спадабалася гультаяватае жыццё. Я думаў, што ён ужо забыўся пра сваё даўнейшае жыццё на Жураўліным балоце. Можа, ён лятаць развучыў-

ся? Бегае за мною, як сабака. Мусіць, зразумеў, што я выратаваў яго з бяды, даў яму прытулак і хлеб. Я таксама быў рады нашай дружбе з добрым жоравам. А ён, пачуўшы вясновую песню сваіх сяброў, якія вярнуліся з выраю, раптам насцярожыўся, пасля прабег па двары, узмахнуў крыламі, зноў спыніўся, прыслухаўся да песні. Яна яго вабіла, клікала. І ён адклікнуўся, працягла закурлыкаў, нібыта хацеў сказаць:

— Чую, лячу!..

Падскочыў да мяне, курлыкнуў:

— Бывай! Мне пара!..

Пабег, пабег па двары, беручы разгон. Лёгка ўзляцеў і паплыў, паплыў на Жураўлінае балота.



## ПЛАЧА БЯРОЗАВЫ ПЕНЬ

Помніцца, яшчэ мой мудры дзед гаварыў:

— Нап'ецца з лужыны на двары певень — пачнецца цяпло, прыйдзе вясна ў сяло.

І праўда: напіўся з лужыны певень — прыляцелі шпакі, засвісталі на нашай высокай ліпе. Пачалі яны ваяваць з вераб'ямі за сваю шпакоўню, у якую тыя нахабна залезлі яшчэ ў познюю восень.

— Фіць-фюіць... Вон, вераб'і!

А яны:

— Чык-чырык... Чые вы? Чаму нас праганяеце?..

Ускудлаціліся, натапырыліся, надзьмуліся, каб паказацца большымі, каб напалохаць шпакоў. А яны не спалохаліся. Яны вытурылі шэрых нахабнікаў са свае хаткі на ліпе. А калі пасяліўся шпак у шпакоўні — чакай цеплыні поўнай. У гэтую пару пачне хадзіць па ствале, пачне бушаваць пад бяростаю бярозавы сок.

Зрабіўшы з клёпкі латак, узяўшы гладыш і сяке-

ру, пайшлі мы з бацькам у лес, каб там сокам бярозавым пачаставацца.

Прыйшлі ў бярэзнік, а ён яшчэ халодны, голы, ні лісціка на галінцы. Толькі ўжо набухлі, напіліся сонца пупышкі, з якіх скора пакажуцца, выскачаць на белы свет кволенькія, тоненькія лісцікі...

— Не кожная карова дае густое, добрае малако, не кожная бяроза дае смачны, салодкі сок,— гаворыць бацька.— У нізіне бяроза п'е балотную ваду, а таму сок руды, жоўклы, не салодкі. На пясчаным грудку старую бярозу нам трэба знайсці. Такая бяроза, як добрая дойная карова...

Ідзём на пясчаны грудок, шукаем такую бярозу. Раптам натыкаемся на бярозавы пень... Плача, сокам ён абліваецца, свежы. Нейкі злыдзень нядаўна, можа, нават сённяшнім досвіткам, спілаваў бярозу, украў у лесе. Наўкол пня свежае пілавінне, трэскі, галіны, верхавінка. Усе яны мокрыя ад буйных слёз.

Плача, слязінамі абліваецца бярозавы пень...

А як жа яму не плакаць! Не працягне над ім ягоная бяроза галін — белых рук да сонейка. Не падставіць лісты-далоні летняму цёпламу дожджыку. Не ахіне сваю верхавіну-чупрыну залатой каронай-вясёлкаю. Не пагушкае на сваіх зялёных галінах песню салаўіную. Не дасць мяккага, гнуткага вецця на новыя венікі. Не схавае ў цянёк ад спякоты ні ягадніка, ні грыбніка. Не дасць сасмягламу чалавеку халоднага чыстага соку...

Плача, слязінамі абліваецца бярозавы пень...

І сэрца маё таксама плакала. Не захацелася мне

бярозавага соку. Шкада мне было параніць старую бярозу на пясчаным грудку, якую аблюбаваў бацька. А ён чамусьці мяне не разумеў. Ён прасек вузенькую шчылінку ў парэпанай кары, уставіў туды латак, падставіў пад яго гладыш. Тонкай серабрыстай нітачкай пабег па латку ў гладыш сок, а пасля пачаў ён капаць: кап, кап, кап... І старой бярозы мне стала шкада. І яна заплакала...

Праз дзён колькі я зноў пабег да таго бярозавага пня. На ім была ружаватая шапка пены, а над ёй кружыліся, на яе асядалі пчолы, восы, камары. Завялыя галіны, верхавінка ў той сонечны ранак ўжо не плакалі.

Салаўінымі песнямі звінеў бярэзнік.



## СНЕГІРЫ

На сваіх трапяткіх, лёгкіх крыльцах прынеслі снегіры мяцельную зіму з далёкай тайгі ў нашу вёску. Выйшаў я з хаты на ганак, а пад ботамі парыпвае свежы, пушысты снег. Ён белымі ахапкамі ляжыць на тыне і на стрэхах, на яблынях і грушах, на санях і на ліпе. За прыгуменнем, нібы чародкі лебядзіныя, аснежаныя белыя кусты. Ціха, ціха на двары. Чуваць, як пстрычкай пашчоўквае мароз па тыне, па сухіх жэрдках плота. Баяцца шалахнуцца дрэвы, хаця б ні пушыначкі, ні сняжыначкі не атрэсці са сваіх галін. Ім жа цяплей, ахутаўшыся ў белы пух. І во прыляцелі снегіры, апусціліся на яблыню, скалыхнуліся галінкі, пасыпаліся сняжынкі-пушынкі. Нібы яркімі, чырвонымі вугалькамі асыпана белая яблыня. Гэта так на ёй чырванеюць, іскрацца грудкі снегіроў. І намёрзлым галінкам, і мне стала цяплей на марозе. Сагрэлі нас сваімі іскрыстымі грудкамі вясёлыя птушачкі. Во яны з яблыні пырхнулі ў дзядоўнік,

у пасохлыя ваўчкі пад плотам. Мне добра чуваць, як яны сваімі дзюбкамі малоцяць галоўкі дзядоўніку, ваўчкоў. Прагаладаліся залётныя госці...

Я іду ў хату, насыпаю ў начовачкі проса, каноплі, хлебныя крошкі і выношу ім снядапак. Паставіў начовачкі пад яблыняй, а сам прытуліўся каля тыну. Узляцеў на яблыню самы смелы снягір, паглядае на мае начовачкі.

— Гэ, сюды ляціце! — падае голас ён сваім сябрам.— Тут можна добра паснедаць!..

Уся чародка зноў узляцела на яблыню, зноў яна заіскрылася чырвонымі грудкамі.

— Чаго чакаць? Нам жа снедаць пара!

А яму, самаму смеламу, разважлівы, асцярожны снягір кажа:

— Не трапячыся, не спяшайся... Вунь за тынам нейкі хлапчук схаваўся. Ён цікуе, сочыць, хоча злавіць нас...

Я пайшоў у хату, а яны зляцелі з яблыні на начовачкі і пачалі снедаць. Мне вельмі хацелася злавіць снегіра. А як яго злавіць?.. Ага, прыдумаў! Трэба зрабіць клетку.

Змайстраваў! На латачок насыпаў канапель і проса...

— Прылятай, карміся, снягір!..

Выбег раніцою на двор і хутчэй у садок. Стаіць на галіне асыпаная снегам клетка. Пустая яна. Можа, яшчэ спяць снегіры? Яны любяць зашыцца ў салому, у мякіну ў нашым гумне. Пабег у гумно. І там іх няма. Дзе яны падзеліся? Можа, яны мае хітрыкі

разгадалі? Можа, той разважлівы, асцярожны снягір сваім сябрам сказаў:

— Не паляцім больш на яблыню. Там стаіць клетка. Там нейкі хітрун, злосны шкет круціцца, хоча нас у тую клетку пасадзіць...

А хіба ж злосны я? Я канапель, проса насыпаў снегірам. Што рабіць? Нехаця пайшоў у хату. Пазіраў у акно, выходзіў на двор, заглядаў у садок, а снегіроў няма і няма. Уначы мне сніліся яны. Прыляцела іх многа, многа. На яблынях, на грушах, на ліпе сядзяць, лятаюць, мне на плечукі, на рукі, на галаву смела садзяцца. Увесь я аблеплены снегірамі.

Раненька прачнуўся, апрануўся і хутчэй у садок. Спраўдзіўся сон. На дрэвах многа снегіроў. Каля плота яны лушчаць галоўкі дзядоўніку, калючых ваўчкоў. Убачыўшы мяне, фыркнулі крыльцамі, паляцелі. Не паляцеў толькі той, які трапіў у клетку.

— Добрай раніцы, снягір!

Чорнымі вачанятамі пазірае на мяне. Спалохаўся.

— Не бойся,— кажу яму.— Я цябе пальцам не крану. Ты — мой госць! Я цябе канаплямі, просам пачаставаў.

У клетцы прынёс яго ў хату.

— Во! Глядзіце, каго злавіў! — хвалюся. А маці кажа:

— Паглядзі, палюбуйся ды выпусці з клеткі на двор яго, сынок. Яму цесна ў клетцы, сумна ў хаце. Ад гора яго чырвоная грудка паблякне, пачарнее. Хіба ж табе яго не шкада?

Мне было шкада нявольніка, але і выпускаць не

хацелася. Гэтакі прыгажун! Жывы, чырвоны агеньчык у клетцы! І ў хаце, і на сэрцы ў мяне пасвятлела.

Прыйшоў з двара бацька, паглядзеў на снегіра, сказаў:

— Здарова, сібірак! Абхітрыў цябе мой жэўжык?

Падышоў і кот паглядзець на сібірака. Жоўтым агнём заблішчалі, заіскрыліся катовы вочы. Ён, выгнуўшы спіну, падышоў зусім блізка і ў клетку прасунуў лапу. Снягір злосна ў яе дзеўбануў:

— Куды лезеш, дурань вусаты! Я і тыграў не баяўся ў тайзе!..

Кот неяк пасаромлена, вінавата адышоў ад клеткі.

— Малайчына, сібірак! — пахваліў бацька снегіра.— Ваяка! Трэба яго выпусціць. Ён у хаце загіра.— Ваяка! Трэба яго выпусціць. Ён у хаце задыхнецца. Ні мяцеліцы, ні марозу ён не баіцца... Сібірак!

Выйшаў я на ганак, адчыніў клетку.

— Ляці!

Ён выпырхнуў, чырвонай зорачкай паплыў, паляцеў над садзікам, над прыгуменнем.

Ён на сваіх трапятkіх, лёгкіх крыльцах прынясе снежную зіму з далёкай тайгі ў нашу вёску.



## РЫСЬ

Ваўка і старую ваўчыцу на Воўчай Градзе і лася ў дзядзькі Мохарта я ўжо бачыў, а рысі яшчэ ніколі не бачыў. Кажуць, яна вельмі лютая, хітрая і спрытная. Нават дарослыя ягаднікі, грыбнікі баяцца злоснай драпежніцы. Яна можа саскочыць з дрэва на чалавека і дзерці яго .

Адзін раз пайшла маці ў ягады, а вярнулася перапалоханая, з пустым кошам з Лаўскага лесу.

— Дзе ж твае ягады? — пытаецца бацька.— Чаму вярнулася?

— Я не вярнулася,— адказала яна.— Я там была. Прагнала мяне рысь.

— Ты бачыла рысь?!

— А няўжо ж. Бачыла. Стала я збіраць чарніцы, чую, нешта шалахнулася на елцы. Глянула, а там — рысь. Сядзіць, цікуе за мною.

— Выдумляй... Можа, гэта дзікая кошка?

— Рысь! На вушах касмыльчыкі валасоў. Хвост

куртаты. Лапы тоўстыя. Жаўтаватая, зіркатая.

— Рысь! Гэта яна,— згадзіўся бацька.— Трэба з ёю мне пабачыцца.

Зняўшы стрэльбу з кручка на сцяне, ён сказаў:

— Пойдзем, паляўнічы!

Узяў і я сваю аднастволачку. Пайшлі.

Доўга мы хадзілі, прыслухоўваліся да шолахаў у лесе, але нідзе не натрапілі на рысь. Мусіць, убачыўшы стрэльбы, яна дзесьці ў густым ельніку схавалася, прытаілася.

Летнім днём, акурат у жніво, з лесу выскачыў вялікі стары лось. Ён, як шалёны, імчаўся ў поле да людзей, якія жалі жыта.

— Што такое?

— Нейкі дурны лось? Чаму ён бяжыць да нас? — гаварылі жнеі. А калі ён падбег блізка да іх, яны на ім убачылі рысь. Яна ікламі ўгрызлася, кіпцюрамі ўчапілася ў ласіны карак. Мусіць, лось доўга бегаў па лесе, хацеў галінамі дрэў змахнуць, скінуць рысь, але не ўдалося гэта яму. Тады ён і пабег у поле, на жніво, прасіць дапамогі ў чалавека.

«Ратуйце, добрыя людзі!..»

Яны кінуліся яго ратаваць, але ўжо было позна. Рысь перагрызла яму вены, з іх струменілася кроў. Лось хістануўся, на загончык жыта паваліўся. А рысь? Яна ўскочыла ў кусты, нібы пад зямлю правалілася.

Хто б мог падумаць, што такога рагатага, магутнага волата можа загрызці, паваліць трохі большая за вялікую кошку рысь!

Узяўшы стрэльбы, пазваўшы Тубаса, мы пайшлі шукаць драпежніцу. Напаўшы на яе свежыя сляды ў кустах, сабака павёў нас у лес. Праз лапушысты арэшнік, калючы ядловец, ельнічак прадзіраемся за Тубасам. Ён спыніўся пад цёмнай кашлатай елачкай і пачаў брахаць. З елкі праз густыя лапкі на нас пазірала рысь. Бацька прыцэліўся, стрэліў. Скацілася яна, чмякнулася на пажоўклую ігліцу пад елкаю. Непадалёку ад яе сабака знайшоў у хмызняку рысіную схованку, у якой чамусьці было толькі адно маленькае рысянятка. Мы яго злавілі. Яно злосна кехкала, кусалася. У паляўнічай скураной торбе прынеслі мы яго дадому. Кармілі сырым мясам, паілі малаком, а яно расло, сілы набіралася. На вушах выраслі касмыльчыкі, лапы сталі тоўстымі, а пыса вусатаю.

Рысь!.. Яе баяліся чужыя каты і сабакі, не забягалі на наш двор. А з Тубасам і з нашым катом яна сябравала. Вельмі прывыкла да мяне. Дазваляла пагладзіць па спіне, паказытаць за вушамі, паціснуць тоўстую лапу. Дык і не дзіва. Я карміў і паіў яе, гадаваў, вырасціў да зімы. У двары каля свіронка зрабіў з дошчак будку, ахутаў яе кастрыцай, саломай, яловымі лапкамі. З кляновых, дубовых лістоў, з баравога моху паслаў ёй цёплую, мяккую пасцелю.

— Жыві, рысь!..

Толькі мала яна пажыла. Забіў яе наш конь Буран. Адгуляўшыся за зіму, пачуўшы вясну, выскачыў ён з хлява на двор, фыркнуў, ажно жар з ноздраў! Падбрыкнуў, праляцеў і стаў. Якое яшчэ выкі-

нуць каленца? Весела яму. Павесялела і рысь, пагледзеўшы на Бурана. Падскочыла да яго, хацела ўчапіцца за хвост, хацела пагуляць з Буранам, а ён заднім капытом трэснуў ёй у лабаціну. Перакулілася яна, адляцела ўбок, чмякнулася на рыхлы снег. З гарачкі яшчэ дапаўзла да ганка:

«Ратуйце, добрыя людзі!..»



## БУРАН

Маці не раз казала:

— Хто коней мяняе, у таго хамут гуляе.

Бацька не верыў гэтай прымаўцы. Ён вельмі часта мяняў коней. Бурана выменяў на чырвонага, лысага, таўставатага ардэна, якога купіў у Слуцку. У прыдачу да Бурана бацька даў цыганам мяшок аўса, баранчыка і кавалак сала. Я дужа любіў нашага лысага, рахманага, высокага каня. Калі мне было трэба сесці на яго, дык ён нагінаў галаву, я садзіўся яму на шыю, а ён уздымаў галаву, ускідваў мяне на сваю шырокую, гладкую спіну. Сядзеў на ёй, як на лаве.

Калі ўжо цыганы хацелі весці з двара лысага, я крадком выстрыг пасмачку з ягонай шаўкавістай грывы. Доўга хаваў тую пасмачку ў хляве, у шчыліне сцяны. Бывала, дастану агністыя валасы грывы, пазіраю на іх, і, здаецца, зноў бачу лысага, зноў ён

нагінае мне сваю шыю, зноў ускідвае мяне на сваю цёплую, шырокую спіну...

Ці палюблю я так моцна новага каня, нашага Бурана? Ён чорны, як той цыган, што прывёў яго нам. Доўгая, валакністая, чорная грыва, чорны, тонкі хвост, стройныя, сухаватыя ногі, а капыты белыя, купчастыя, моцныя, звонкія. Пыса ў яго аксамітная, шыя нібы лебядзіная, тонкая, харошая.

Конь-агонь! Як жа не палюбіць такога? Толькі ён нейкі фанабэрысты. Сам сабою ганарыцца, фарсун. Фыркне, разадзьме храпы, сыпане жар, уздыме высока галаву, звысака пазірае на ўсіх. Нібыта ён ведае, што за яго ў прыдачу мы далі цыганам мяшок аўса, баранчыка і кавалак сала.

Бацька яго хваліў, суседзям гаварыў:

— Мой Буран толькі гаварыць не можа, а ўсё разумее, як чалавек. Разумны конь. Ён за тыдзень наперад ведае, у каго будзе вяселле. Як дагадваецца? Вельмі проста. Ідзе праз вёску, спыніцца, разадзьме храпы, прынюхаецца. Там, дзе пахне брагаю, там самагонку гоняць, там хутка будзе вяселле.

Буран яшчэ ведаў, дзе трэба праімчацца, дзе прабегчы, прайсці спакойна, дзе спыніцца. Праз вёску ён ляціць куляй: хай бачаць вяскоўцы, які ў Петруся конь-агонь!.. Даляцеўшы да сасонніку на пясчанай горцы, Буран ідзе паволі, спыняецца. Ён ведае, што з высокага светлага дома выйдзе ў садок Аўросім Кулакоўскі, наш хатлянскі старэнькі поп. Бацька чамусьці лічыць яго разумным, талковым чалавекам. А які ж ён разумны? Ён, мусіць, зусім дурны! Чаму,

калі памрэ нехта, калі ўсе на пахаванні плачуць, ён адзін спявае? Няўжо яму весела, радасна, што памёр чалавек?

Конь стаіць у аглоблях, поп пад вішняй, а мы з бацькам сядзім на павозцы.

— Што чуваць, бацюшка? Што піша газетка?

— Усё вісіць на валаску,— адказвае бацьку поп.— Захісталіся кардоны.

Ні я, ні Буран нічога пра кардоны не разумеем, а бацька, нібыта нешта ўцяміў, ківае галавой, зноў пытае:

— А што там? — паказвае пугаўём у неба.— Там усё ў парадку?

— Няма парадку ў нябеснай канцылярыі,— уздыхае кудлаты поп.— Паказалася вогненная камета.

— Няўжо?

— Паказалася! Ляціць! Дымным, вогненным хвастом накрые зямлю.

— Няўжо?!

— Накрые! Пад попелам, пад сажай будуць травы і лясы.

— І наш Лаўскі лес?

— І Лаўскі, і Жаўняцкі, і Гацукоўскі.

— Канец свету? — пытаўся бацька.

— А як ты думаў... Канец! — гаварыў поп.— Награшылі. Маліцца богу трэба. А ты от не молішся, не ходзіш у царкву. Стрэльбу на плячук — і на балота. Чорту балотнаму молішся.

— Нікому я не малюся,— злаваўся бацька.— Ні-

хто яшчэ не бачыў тае каметы. Можа, зусім яе няма?..

Страшнавата і таямніча мне было. Мне чамусьці хацелася, каб тая вогненная камета паказалася ды зноў свой доўгі, дымны хвост пацягнула за сабою ў неба, за воблакі, за хмары, не засыпаўшы попелам травы і лесу.

Поп адыходзіў ад вішні, і Буран разумеў, што гутарка закончана. Ён ахвотна бег на той шнурок сенажаці, на якой ляжалі завялыя, але яшчэ не прасохлыя пракосы. Буран добра ведаў, што мы будзем пракосы варушыць, грэбці сена, а ён, травою накарміўшыся, будзе стаяць пад лугавым вязам у цяньку.

Не любіў Буран дарогі ў Слуцк. Яна вельмі доўгая, а ў Слуцку — конскі рынак. Там муштруюць, ганяюць коней цыганы, усялякія гандляры-перакупшчыкі. Нават гацукоўскі поп Ермалай прыводзіць туды сваіх коней прадаваць. Кажуць, напоіць Ермалай коней брагай, а сам вып'е збан царкоўнага віна перад дарогай. На рынку коні вясёлыя, а Ермалай п'яны. Адзін раз падышоў ён і да Бурана, а той прыціснуў вушы, ашчэрыў зубы:

«Адыдзі, кудлаты вядзьмак!..»

Поп — убачок, задам, задам ад павозкі, шырокімі рукавамі замахаў, п'яным голасам закрычаў:

— Нехрысць! Д'ябал, а не конь! Пракляну!..

Людзі рагаталі, а ў Бурана толькі вочы хітра ўсміхаліся. Ён з агідаю пазіраў на тых жарабцоў, кабыл, якія вось такім ермалаям дазваляюць браць за храпу, разглядаць, лічыць зубы, пастукваць пугаўём

у капыты. Не любіў ён і той будыніны, што звалася карчмой. Там яму трэба было стаяць прывязанаму да слупа і чакаць, пакуль бацька з Мохартам выхваляцца паляўнічымі прыгодамі, сваімі здабычамі.

«Хопіць вам, манюкі! — іржаў Буран.— Дадому пара!»

Не еўшы, не піўшы, імчаўся дадому Буран. Ён ведаў, што, калі звечарэе, калі на лузе пасцелецца туман, ён праз гэты туман пабяжыць да засцянковага табуна коней. Яны ўначы пасуцца на маладой канюшыне. Будзе і ён латашыць тую расяную, сакавітую канюшыну. Начлежнікі яго не ўбачаць ноччу ў табуне. А калі ранкам на ўсходзе ўбачыць малінавую палоску неба, Буран праз гэтыя туманы, нікім не прыкмечаны, прыбяжыць пад страху ў свой хлеў...

Гаварыць не мог, а разумеў конь усё, як чалавек. Дык і не дзіва, што Буран за тыдзень наперад ведаў, дзе ў каго будзе вяселле!..

Во які наш Буран!



## КАНАВАЛ

З далёкай вёскі Белая Лужа ён прыехаў да нас на веласіпедзе. Ніколі сабакі нашай вёскі не бачылі такой бліскучай круцёлкі, а таму з двароў кінуліся на чужога чалавека. Ён бізуном адганяў сабак, у канец вёскі, каціўся на сваёй бліскучай машыне. Услед за ёю беглі мы, вясковыя хлапчукі. Мы таксама першы раз бачылі той самакат.

У двор Астапа Караневіча заехаў канавал. Вельмі дужы ён! Вывеў Астап з хлява на прыгуменне свайго жарабка. Ён становіцца дыбкі, напінае павады, вырываецца, пярэднімі капытамі зямлю грабе. Страшна да яго падысці. А канавал не спалохаўся, падышоў і, аблытаўшы жарабку ногі вяроўкаю, паваліў яго на мураву. Зрабіў, што трэба было. З гэтай часіны рызыкант-жарабок стаў звычайным канём-работнікам...

Ад Астапа Караневіча паехаў канавал на сваім веласіпедзе да Тодара Мысліўца. Трэба было лячыць ягонага бугая.

— Э, Тадорыха! — гукнуў канавал.— Давай цёплую ваду!

— Нясу!

І вынесла на ганак чыгун цёплай вады. Жывёльны лекар вымыў рукі, памыў нейкія бліскучыя іголкі, доўгае шыла.

— Дзе хворы?

— У хляве,— адказаў лекару Мыслівец.

— Вядзі!

Агледзеўшы бугая, лекар сказаў:

— Нейкай трасцы ён, падла, нажэрся. Апух. Трэба кроў пусціць, кепскі дух выгнаць.

Абматаўшы вяроўкаю рогі, вывеў бугая на двор і прывязаў да шула ў варотах.

— Гэта нам раз плюнуць — і гатова! — хваліўся лекар.— Я і не такія аперацыі магу праводзіць. Спецыяльнасць маю. У мяне лёгкая рука.

І пачаў ён бліскучымі іголкамі, доўгім шылам калоць у пахвы, у шыю бугая. Той круціўся, падскокваў, а лекар яго калоў, кепскую кроў пускаў, цяжкі дух выганяў...

Злоснымі, крывёю налітымі вачыма пазіраў бугай на лекара, калі ён на сваім веласіпедзе выязджаў з двара Тодара Мысліўца.

«Ну, пападзіся ты мне, разбойнік, я табе пакажу! — думаў бугай.— Ты мяне жалезам калоў, я цябе рагамі пракалю...»

Калі дажалі жыта, звезлі ў гумны з поля снапы, на ржэўніку паслася чарада вясковых кароў, а ў чарадзе і той цаколаты бугай. Акурат у гэты час па

дарозе палявой ехаў канавал на веласіпедзе. Убачыўшы яго, прыгнуўшы галаву, задраўшы ўгору хвост, рынуўся бугай наўздагон за канавалам. Ён стараецца, з усіх сіл націскае на педалі, а бугай усё набліжаецца, даганяе..

«Не ўцячэш, даганю! — злосна чмыхае.— Ты мяне жалезам, я цябе рагамі пракалю!»

Ужо зусім блізка бугай, чуваць, як ён цяжка сапе, чмыхае за плячыма. Што рабіць? Змогся канавал. Кінуў ён веласіпед і пабег на абочыну дарогі, дзе стаяла адзінокая сасна. Ухапіўся за сук, падцягнуўся, узлез на сасну, а пад ёю стаіць ужо бугай. Капытамі зямлю грабе, рагамі стукае ў пачарнелы ствол, ажно ляціць з яго парэпаная кара.

— Ну, чаго ты да мяне прычапіўся? — пытаецца ў бугая канавал.— Хто цябе лячыў? Я лячыў! Ідзі ў чараду, дурань рагаты!..

Не ідзе той у чараду. Стукае рагамі ў сасну, намагаецца паваліць яе, намагаецца на зямлю атрэсці перапалоханага чалавека з Белай Лужы.

Убачыўшы на дарозе веласіпед, на яго накінуўся бугай. Пачаў ён рагамі спіцы ламаць, храбустаць, а рогі зашчаміліся так, што не можа з іх скінуць веласіпеда. Біў ім аб сухую дарогу, аб крывую сасну пры дарозе. Дарэмна! З веласіпедам на рагах пайшоў бугай у чараду. Пазіралі каровы, дзівіліся:

«Дзе ён дастаў такія бліскучыя рогі?..»

З таго часу хадзіў пешкі канавал, абмінаючы двор Мысліўца Тодара, адкуль мог выскачыць пакрыўджаны, злосны, страшны бугай.



## ЛАСТАЎКІ

У нашай вёсцы хадзіла такая пагалоска: у вырай, у далёкія цёплыя краіны, за мора-акіяны журавы пад сваімі шырокімі крыламі нясуць ластавак. Пасля даведаўся, што гэта няпраўда. Яны самі, на сваіх крыльцах ляцяць восенню ў цёплыя краіны зімаваць. Ластаўкі спрытнейшыя, больш імклівыя за журавоў. Дык навошта ім жураўлíныя крылы?

Прылятаді з выраю ластаўкі пазней за жураўоў, нават пазней за марудную зязюлю, якая прыносіць у свой родны бор цёплую вясну.

Прыляцеўшы, ластаўкі адразу браліся за работу. На апошні вянец сцяны, пад крокву нашай старэнькай хаты яны ў дзюбках насілі гразь, гліну, саломкі, валасінкі, пярынкі. Усё гэта ўласнай слінаю змочвалі, склейвалі, майстравалі сваё круглае гняздзечка. Яно ўжо было гатова, але кудысьці яшчэ шчырыя работніцы адлучыліся, а праз круглую дзірачку ў гняздзечка праціснуўся верабей. Гэта ён нібыта пагля-

дзець, пацікавіцца, павучыцца ў ластавак, як трэба рабіць гнёзды. Паглядзеў, павучыўся — вылятай! А ён сядзіць. Прыляцелі ластаўкі, а ў іх маленькай хацінцы няпрошаны госць.

— Мы цябе не звалі, не прасілі,— зашчабяталі ластаўкі.— Выбірайся, верабей!

А ён сядзіць. Надзьмуўся, зачырыкаў:

— От знайшліся гаспадыні! Я сам сабе гаспадар!

Ластаўкі пашчабяталі, пашапталіся і паляцелі. Неўзабаве прынеслі яны ў дзюбках глейкай гразі і пачалі ёю замазваць дзірачку ў гняздзечку. Зноў паляцелі, зноў прыляцелі, а верабей сядзіць. Там яго гразёю заляпілі, замуравалі ластаўкі. У глухой цямніцы сядзіць. Ні святла, ні паветра. Шкада мне стала вераб'я. Выпусціў яго з турмы на свабоду:

— Ляці, шэранькі! Можа, цябе вераб'іха, верабейкі чакаюць?

На першым вянцы сцяны, пад саламянай страхою зрабілі сабе другое гняздзечка ластаўкі.

— Ты іх шануй, паважай,— гаварыла мне маці.— Яны нам памагаюць садок гадаваць. Трымаюць яго ў чысціні. Збіраюць з лістоў вусеняў, усялякіх шкодных мошак, мушак. Нам і пагоду ўгадваюць ластаўкі. Лятаюць нізенька, пры саменькай дарозе,— чакай дажджу. Лятаюць высока над нашай дарогай,— ясная пагода пастаіць. А калі спораш ластаўчына гняздзечка,— станеш гэтакім рабенькім, як ластаўчыны яечкі ў гняздзечку...

Пакуль пад страхой выводзіліся, гадаваліся маленькія ластавачкі, мы ўсяліліся ў новую хату, а

старэнькую крывенькую прадалі Мікіту Рудзіку, новаму кавалю. Ён аднекуль прыехаў у нашу Дуброўку і хацеў паставіць сваю кузню пры дарозе каля выгану. Пачалі разбіраць нашу старэнькую хаціну. Знялі, скруцілі ў снапы саламяную страху. Трэба разбіраць сцены, а на першым вянцы ластаўчына гняздзечка. Над ім перапалоханыя ластаўкі кружацца, трывожна шчабечуць:

— Не чапайце нашай хацінкі, не кранайце нашых малых дзетак...

Далікатненька, акуратненька знялі верхняе бервяно. На руках яго панеслі мужчыны на выган. За імі ляцелі, над імі кружыліся, шчабяталі, плакалі дзве ластаўкі ў беленькіх манішачках, у чорных камізэльках.

Дарэмна яны плакалі. Зноў далікатненька, акуратненька наклалі бервяно з гняздзечкам апошнім, верхнім вянцом на сцяну. Не пад саламянай, а пад гонтавай страхой гадаваліся, падрасталі маленькія ластавачкі, а старыя ім насілі вусеняў, матылькоў, усялякіх мошак і мушак. Ні каваля, ні кавальскага звону-перазвону не баяліся ластаўкі. Весела жылі пад страхою аж да пажоўклай восені.

Першы тоненькі лядок ранкам пахрумстваў у калінах. Калючаю зрабілася падшэрхлая дарога. Падковамі пачаў каваль Рудзік абуваць конскія капыты. Гэтай парою паляцелі ў вырай ластаўкі.

Няпраўда, што іх нясуць жуpавы пад сваімі крыламі. Ластаўкі спрытнейшыя, больш імклівыя за жураво́ў. Дык навошта ім крылы жураўліныя?



## ДОБРЫ ЧАЛАВЕК

З вясны да спелага лета ў нашай вёсцы стаяў невялікі атрад чырвонаармейцаў. Гаварылі яны, што беловяць у лясах, на хутарах нейкіх «зялёных» і «белых»... Хто яны? Чаму яны пазелянелі, пабялелі? А калі чырвонаармейцы іх злавілі і прывезлі з лесу ў вёску, дык нашы людзі пазналі некаторых. Гэта былі панскія стражнікі, гайдукі, сыны багатых кулакоў, арандатараў. Гэта былі звычайныя бандыты, якія забівалі нашых людзей, забіралі ў іх кароў, коней, свіней, хлеб. Забіралі ўсё, што трапіцца пад руку...

Вельмі ўдзячныя былі нашы людзі чырвонаармейцам. Камісарам іх атрада быў добры, вясёлы чалавек, які быў апрануты ў хромавую скуранку. Хадзіў ён у моцных юхтовых ботах, а на «будзёнаўцы» зіхацела чырвоная зорка.

Мы, вясковыя хлапчукі, рады былі ўбачыць яго, бегалі за ім услед, любаваліся баявым, прыгожым,

добрым камісарам... Нават вусаты салдат, нейкі дзядзька з Украіны, гаварыў пра яго з пашанай, ганарыўся сваім камісарам.

— Цэ — наш бацька! Старшой!..

Мне было смешна: сам стары, вусаты, а маладога бацькам заве! А вусаты гаварыў:

— Цэ — наша галава! Камуніст! Ленінскі камісар!

А ён, бывала, падзаве да сябе вясковых дзяцей, пачастуе іх цукрам, салдацкім хлебам. А то, бывала, падхопіць шустрага жэўжыка, гушкане над сабою, скажа:

— Расці высока, глядзі далёка...

У нашай новай хаце пасяліўся гэты добры чалавек. Да яго часта прыходзілі байцы. Прыходзіў нават сам камандзір, высокі, шыракаплечы. На ім у халодныя вясновыя дні была доўгая чорная бурка, а пад ёю шабля — злева, парабелум — справа. У камандзіра быў чорны конь. На ім, у сваёй бурцы, у калматай чорнай шапцы, камандзір, як бура, вылятаў з вёскі за весніцы, а за ім цокала капытамі конніца.

Да позняй ночы свяціў агеньчык у нашай хаце. Камісар любіў слухаць паляўнічыя апавяданні бацькі, яго друга Мохарта. Паляўнічы часта прыходзіў, каб пагаварыць з камісарам. Сядзяць, гавораць, а пасля заспрачаюцца.

— Што ў вас? — пытаецца камісар.— От у нас, у Сібіры!

— А што ў вас, у той Сібіры?

— Тайга! Ідзеш дзень — лес! Ідзеш другі

дзень — лес! Ідзеш пяты дзень — лес! Канца-краю няма!.. У вас і мядзведзі нейкія недарэкі, рыжанькія мурашнікі.

— А якія ў вас?

— О, у нас!.. Стане волат на заднія лапы пад кедрам, шарпане па кары вышэй галавы — да абалоны дастане: глядзіце, во які я высокі, вялікі, магутны!

На многіх дрэвах правядзе такія рысы: гэта ён вызначыў свой абход, правёў граніцы, якія недазволена перарастуапць другім таежным мядзведзям. І не пераступаюць тыя, якія слабейшыя, якія баяцца памерацца сілаю з волатам. А, убачыўшы тыя знакі на дрэвах, больш магутны мядзведзь стане на заднія лапы пад елкай, а кіпцюрамі пярэдняй лапы правядзе сваю рысу на кары: глядзіце, я вышэйшы, я дужэйшы за ўсіх! Выбірайся вон усе! Я тут — гаспадар!..

Слухаў я пра таежных мядзведзяў, а ў думках перад маімі вачыма стаяў расхрыстаны, з кудлатай чупрынай, гарбаносы Шуляк. Ён, як мядзведзь, касалапы, тоўсты, нейкі нязграбны, нескладны, але вельмі злосны і дужы. Прыйдзе на вечарынку, плячыма парасціхвае слабейшых, пасярэдзіне хаты пастаіць, як слуп, а пасля закрычыць:

— Вон усе! — Адзін буду скакаць! Я тут — гаспадар!

Слабейшыя разбягаюцца, а сапраўдныя, дужыя дзяцюкі Шуляка схопяць за рукі, за кудлы ды выкінуць з хаты на двор.

Мядзведзі!..

Зноў слухаю камісара. Ён гаворыць:

— А што ў вас за штукі?.. Бегаеце вы, дзядзька Мохарт, са стрэльбаю па балоце, шукаеце нейкага бякасіка, чырачка, улічка. А ў нас у Сібіры...

— А што ў вашай Сібіры? — перапытвае яго Мохарт.— Можа, там і кулічкі, як мядзведзі, вялікія?

Сібірак не злуецца, ветліва ўсміхаецца, кажа:

— Выйдзеш таежнаю сцежкаю да возера, а яно белае-белае: гэта плаваюць на ім лебедзі... Выйдзеш на балаціну, а яна шэрая-шэрая: гэта на ёй харчуюцца дзікія гусі... Натопчуць свае валякі, разамлеюць і заснуць. Адзін гусіны павадыр не спіць. На варце стары, разважлівы гусак. Направа паглядзіць, налева паглядзіць — спакойна, няма ворагаў. Пачынае трошкі драмаць і вартаўнік... Пара! Ціха-ціха падпаўзаеш да яго — цоп-хоп за шыю, ды ў мяшок! Ён ужо не кракне, не падасць з мяшка сігналу:

— Узлятайце, уцякайце!..

Тады ўжо гусей бяры, у мяшкі кладзі. Жывыя мяшкі варушацца, падскокваюць, а ўзляцець не могуць, вельмі цяжкія, гусямі напханыя... Во як у нас у Сібіры! Размах!..

Я, зачараваны, сяджу, маўчу, а бацька і Мохарт смяюцца, паляпваюць далонямі па плечуках сібірака. Ён таксама весела смяецца, а пасля кажа:

— Фантазія! Разумная, творчая фантазія бярэ гарады! Чулі?

Я чуў, як ён гаварыў байцам, што смеласць і храбрасць бярэ гарады. А тут яшчэ нейкая фантазія?

Што такое фантазія? Ніколі яе не бачыў. І горада вялікага таксама не бачыў. От бы пабываць у горадзе!..

А камісар, нібыта ўгадаўшы мае думкі, кажа:

— Начальства мяне выклікае ў Мінск... Паедзем? — пытаецца ў мяне.— Хочаш пабачыць горад?

— Дзіва што! Хачу!..

На салдацкай падводзе даехалі мы да вакзала, адкуль у Мінск трэба ехаць цягнікам. Стаіць ён чорны, круглабокі, прапацелы.

— Чых-чмых! — белыя воблакі пары пускае. У белых воблаках стаю, пазіраю на цягнік, на тыя хаткі, якія стаяць на бліскучых вузенькіх палосках.

— Людзі жывуць у гэтых хацінках?

— Гэта вагоны,— адказвае мне камісар.— Па гэтых бліскучых рэйках пабягуць колы вагонаў, павязуць нас у Мінск...

Вагоны вельмі падобныя на маленькія хаткі. Доўгая вёска стаіць на рэйках! А калі пазванілі ў звон, калі загукаў цягнік, вёска скалыхнулася, паплыла, паплыла. Па рэйках, на калёсах пабеглі хаткі-вагоны. Яны і прывезлі нас у горад.

Дык вунь які вялікі гэты Мінск! У тры, у чатыры, у пяць ярусаў стаяць дамы! У адным такім доме могуць пасяліцца Дуброўка, Забалоцце і ўсе нашы Хатляны. А колькі дарог! Направа — вуліца, налева — вуліца, уздоўж і ўпоперак — вуліцы! І па ўсіх дарогах-вуліцах едуць, ідуць, бягуць, спяшаюцца. Грукат і гамана. А людзей — не палічыць! У многіх акуляры.

У нас толькі ў настаўніка акуляры. Дык ён жа вучоны. Няўжо ўсе гэтыя, што ў акулярах, вучоныя? А, можа, яны прачыталі многа кніжак і папсавалі сабе вочы?

Пра гэта я запытаўся ў камісара, а ён кажа:

— І табе трэба навучыцца чытаць. Ёсць многа цікавых, разумных кніг. Прачытаеш іх — станеш мудрэйшым. Можа, нават вучоным станеш.

Купіў ён мне чытанку, шмат алоўкаў і сшыткаў.

Пайшлі мы да таго начальніка, які выклікаў камісара. Вельмі добры і той начальнік. Ён пачаставаў нас у сваім пакоі салодкім чаем. Ён доўга штосьці расказваў камісару, а пасля даў яму нейкія паперы, і мы зноў пайшлі на вакзал, паехалі з Мінска дадому.

Сядзім за сталом, вячэраем. Бацька расказвае камісару:

— Пан Пуцята хацеў памяняцца прозвішчамі. Давай, казаў, зробім так: ты будзеш Пуцятам, а я Бялевічам... Пан Бялевіч! Хараша! Хараша!.. А я гаварыў, што згодзен быць Пуцятам, калі ў прыдачу да свайго прозвішча дасць маёнтак, лясы і палеткі. Нельга ж Пуцяту без гэтага.

— Не аддаў?

— Кукіш паказаў!

І камісар, і мой вусаты бацька смяюцца, а я сяджу ў аксамітавым, шырокім і мяккім крэсле. Яно лёгка коціцца на калёсіках ад сцяны да сцяны па падлозе. Гэта крэсла і вялікае люстэрка, якое вісіць на сцяне, бацька выхапіў з панскага палаца тады,

калі людзі нашай вёскі хапалі ў маёнтку плугі, бароны, кадушкі, скрыні, хамуты, дугі... Хітры мой бацька! Ведаў што браць. Крэсла — не хамут! Люстэрка — не дуга!

Камісар падыходзіць да крэсла, коціць яго ціхенька ад парога да сцяны. Мне ў люстэрка відаць, як добра ўсміхаецца шчыры чалавек.

— Правільна зрабілі вы, што не памяняліся прозвішчамі,— кажа ён бацьку.— Пуцята, як злодзей, крадком уцёк за мяжу, на чужыну, а Бялевіч, на сваёй зямлі, у родным краі жыве... Цароў, царанятаў, пуцятаў бура рэвалюцыі ў бездань змяла, а нас узнесла, узносіць, да сонейка ўзнясе... Разумееш, дружок?

Дружок... Жывым, іскрыстым праменьчыкам запала гэта слова ў маё сэрца. Душою я разумеў добрага, шчырага чалавека. Пасля жніва павёў ён атрад сваіх байцоў да вакзала. Пайшоў бы, пабег бы на край свету і я за камісарам.

Адзінока, сумна мне стала без яго ў нашай хаце... «Навучуся пісаць, тады ягоным алоўкам, на яго паперы напішу яму пісьмо,— думаў я.— А куды павесляць мой ліст камісару? Можа, ён і сам яшчэ не ведае, куды завядзе яго дальняя дарога...»

У роздуме я сядзеў, успамінаючы дарагога чалавека, якога да нас, у нашу лясную вёску паслаў сам Ленін. Вось чаму байцы пра свайго камісара з пашанай, шчыра гаварылі:

— Ён — бацька наш. Ён — ленінскі камісар.



## КІМ БЫЦЬ?

Мне хацелася стаць Мохартам, у якога дзве стрэльбы, свой хутар, а на хутары прыручаныя ласі, журавы, вавёркі... Добра быць Мохартам!

Пасля я хацеў стаць цыганом, ехаць куды хочаш у высокай будзе на павозцы. Захацеў спыніцца ў дуброве — спыняйся; захацеў на лужку каля рэчкі — спыняйся. Не трэба пасвіць кароў і свіней, не трэба дурных авечак пераймаць у чарадзе адвячоркам... Добра быць цыганом.

Пасля я хацеў стаць барцом. Ён з Лошы прыехаў да нас. Выбралі ў вёсцы самую вялікую хату, увалаклі туды мужчыны каменную глыбу на дошках, прынеслі з кузні пудовы молат. Паднялі той валун ды на грудзі барцу, ды давай гаціць молатам па валуну. Вытрымаў і молат, і валун; і барэц вытрымаў, жывы падняўся. Паглядзеў на людзей і кажа:

— А цяпер буду цвікі круціць. Вось яны, дылёўкі-цвікі.

Паглядзелі мужчыны на тыя цвікі, памацалі іх, гнуць паспрабавалі: сапраўдныя, жалезныя, не гнуцца. А барэц пакруціў іх, у вяровачкі пазвіваў. Сіла! За гэтую сілу яму далі многа грошай. Накармілі яго і напаілі... Добра быць барцом!

А пасля бацьку я сказаў:

— Хачу стаць камісарам!

— А царом не хочаш?

— А што той цар? Камісар яго з трона скінуў!

— І правільна зрабіў,— кажа бацька.— Камісар — ого! Вялікі чалавек. Ён у самога Леніна вучыўся, як цароў з тронаў скідаць. А ты хоць у начшага настаўніка павучыся, як трэба пісаць і чытаць... Час табе, камісар, у навуку ісці...

Гэтаму я вельмі ўзрадаваўся: новае нешта адкрываецца ў маім жыцці. Натаптаў я ў палатняную торбу нейкіх паляўнічых часопісаў, што прыносіў бацьку Мохарт, напхаў туды старых кніг: хай глядзяць, бачаць усе, колькі прачытана мною, які вучоны я! Апрануў новую світку з шэрым каўнерыкам з пушыстай заячай шкуркі. Праз Дуброўку іду, стрэчным у вочы заглядаю: от глядзіце, людзі, у навуку іду!.. Добра, лёгка ідзецца. Толькі дайсці ў школу мне тым восеньскім ранкам не ўдалося. Перагарадзіў дарогу вялікі, жоўты, люты Еўтухоў сабака. Яшчэ здалёк убачыў я, што сабака пазірае на мяне і прынюхваецца. Можа, кілбаску ў торбе пранюхаў?.. Іду, а ён як скокне, лапамі ў грудзі стукнуў, паваліў, сарваў зубамі заячы каўнер з мае світкі і — бывай здароў!

Паваломся я дадому.

— Чаму вярнуўся? — пытаецца маці.

— Во, голая,— паказваю на світку без каўнерыка.— Еўтухоў сабака...

— А дзе ён? — перапытвае мяне бацька.

— Сарваў каўнерык і пабег на свой двор.

Бацька схапіў стрэльбу, злосна сказаў:

— Застрэлю злыдня!.. Хадзем.

Прыйшлі да старога Еўтуха.

— Дзе твой сабака?



— Недзе бегае,— адказвае бацьку Еўтух.

— Не будзе ён бегаць! — злуецца бацька.— Ён сарваў каўнерык у майго Антося. Бачыш, голая світка. Калі яшчэ выскачыць на дарогу, дык з твайго сабакі зраблю каўнер на ўсе плечы хлопцу!..

— Я табе дам авечую аўчынку,— апраўдваўся Еўтух.— А сабаку прывяжу да будкі.

— Аўчыны мне не трэба,— лагаднеў, супакойваўся бацька.— Застрэлю зайца. А сабаку прывяжы да будкі...

Назаўтра ранкам зноў пайшоў я ў школу. Яна была ў вялікай хаце Каржаневіча. У меншай палавіне яго сям'я, а ў большай — школа. Там ужо ў той ранак многа было хлопчыкаў і дзяўчынак. Я пачаў паказваць ім свае кнігі, пачаў хваліцца тымі сшыткамі, алоўкамі, якія купіў мне камісар у Мінску.

— Навошта табе гэтулькі алоўкаў? — запытаўся Данілка Плісаўка.— Дай мне адзін аловак, а я табе...

— Ідзе!

— Настаўнік ідзе! — перапынілі Данілку дзеці. Ён не паспеў сказаць, што дасць мне за аловак.

Увайшоў настаўнік, прывітаўся, агледзеў усіх, а ў мяне запытаўся:

— Чаму ўчора не прыйшоў?

— Не пусціў Еўтухоў сабака.

Усе дружна засмяяліся, а настаўнік зняў, хустачкай працёр акуляры, зноў іх начапіў на пераноссе, злоснымі вачыма праз шкельцы пазірае на мяне. Зноў пытаецца:

— Ведае пра гэта бацька?

— Ведае. Ён хацеў застрэліць сабаку, але Еўтух прывязаў яго да будкі.

— Садзіся! — сказаў суровы, вастраносы настаўнік, зразумеўшы мае невясёлыя прыгоды. Ён крэйдай на чорнай дошцы паставіў белую палачку, а мы тую палачку сталі пераносіць у свае сшыткі.

Усё ішло добра. Была малая, а пасля вялікая пераменка на абед. Тыя, якім існі было далёка, абедалі ў школе, са сваіх торбачак, а каму было блізка, той пабег дадому. Пабег і я дахаты, пакінуўшы ў парце кнігі, сшыткі, алоўкі. Прыбягаю, дастаю з парты торбу, а там няма маіх алоўкаў! Хтосьці іх украў. Хто?.. Ага, скумекаў: зайздросна на іх глядзеў Данілка Плісаўка. Яго работа! Наскочыў на яго, за валасы ўхапіўся, штурхаю яго ў жывот, у куток заганяю, а настаўнік — шасць у школу.

— Што такое? — пытаецца.— Чаго наляцеў на яго каршуном?.. На калені! Глядзіце, якое парасё!..

— Ён мае алоўкі...

— На калені! — не дае мне гаварыць настаўнік.— На калені! — паказвае доўгім, худым пальцам у куток.

«Што рабіць? Можа, уцячы? — думаю.— А дома не пагладзяць па галоўцы. Прыгоняць у школу...»

Стаў на калені. Крыўдна, сорамна. Перашэптваюцца, пасмейваюцца школьнікі. Ціхенька прачыняюць дзверы, пазіраюць на мяне мурзатыя, галапятыя дзеці Каржаневіча, гаспадара вялікай хаты. Падышоў шэры, вялікі, вусаты кот, трэцца, мурлыкае. «Можа, ён шкадуе мяне? — думаю.— А, можа, ён хіт-

ра пасмейваецца? Можа, ён думае, што я сам украў свае алоўкі?.. А гэты цыбаты жораў? Не даў мне слова сказаць, а сам пальцам у куток паказвае:

— На калені, на калені.

Хіба ж не крыўдна? А хай яно ўсё праваліцца!..»

А калі кончыўся ўрок, настаўнік мне сказаў:

— Падыміся, ваяка-задзірака. Ну, як твае калені? Пакажыся, павярніся.

А я з парты схапіў торбу, выскачыў з хаты на двор і паплёўся дадому.

— Чаму так рана прыйшоў? — пытаецца маці.— Можа, што забалела ў цябе?

— Нішто ў мяне не баліць, але не буду хадзіць у школу.

— От яшчэ выдумаў! Як дам трапкача — пабяжыш... Чаму гэта не будзеш хадзіць?

— У школе многа зладзеяў. Яны мае алоўкі ўкралі.

Бацька слухаў, усміхаўся ў свае залацістыя вусы, а пасля сказаў:

— Знойдуцца твае алоўкі. Іх нехта ўзяў, прыхаваў, каб ты трохі патрапятаўся. Знойдуцца...

І праўда: знайшліся! Данілка Плісаўка хацеў іх мне аддаць, але раптам наскочыў настаўнік, Данілка спалохаўся, прытаіўся. Яму трэба было адразу прызнацца, а ён чамусьці пабаяўся. А калі я выскачыў на двор, ён прызнаўся.

Вечарам прыйшоў да нас настаўнік. Ён таксама быў паляўнічым, сябраваў з бацькам, а таму часта заходзіў у хату, каб пагаварыць пра паляванне.

— Во твае алоўкі, ваяка-забіяка,— кажа настаўнік.— Данілка хацеў пажартаваць, а мы з табой трошкі завіхурыліся.

А я, нібыта анямелы, стаю, маўчу, чакаю, калі ж ён пра выхадку маю скажа? От будзе сорамна, як маці пачне мяне трапкачом хвастаць.

Не сказаўшы нічога пра мяне, «ваяўнічага шпака», настаўнік пачаў развітвацца. І мне працягнуў сваю сухую, вузкую руку. І чамусьці мне яшчэ больш стала сорамна, балюча. І чамусьці ў гэты вечар худы, суровы настаўнік раптам стаў добрым, шчырым, блізкім і дарагім. І мне хочацца зрабіць яму штосьці добрае. І, стрымліваючы слёзы, прыглушаючы жальбу, я ціха гавару:

— Даруйце мне, Максім Данілавіч... Я ніколі больш не буду. Я ўдзячны...

А ён, добра зразумеўшы мяне, не дае дагаварыць, кажа:

— Гара з гарою не сыходзяцца, а мы — людзі! Мы сэрцамі, нашымі інтарэсамі сыдземся...

І мы сышліся, моцна, шчыра пасябравалі.



## ЭКЗАМЕНЫ

Нібыта ў цікавую казку, вёў у навакольнае жыццё мяне першы мудры настаўнік.

— От гэта галава. Вучоны! — з пашанай гаварыў пра яго бацька.— Не нейкі там цар, а цэлая акадэмія навук у ягонай галаве. Інтэлігент!..

А ён, бывала, у восеньскую слоту, у зімовую завіруху кіламетраў трыццаць пройдзе ў раённы цэнтр, каб там дастаць п'еску для самадзейнага драматычнага гуртка нашага сельскага клуба... І школьнікаў, і вясковых дзяўчат, і хлопцаў ён старанна навучаў паказваць людзям п'есКі, іграць на клубнай сцэне.

Не саромеўся настаўнік зайсці і на вясковую вечарынку, якой дамагаўся даць адпаведны лад і склад, даць патрэбны, разумны кірунак. На тых вечарынках ён сам, ягоныя вучні дэкламавалі вершы Пушкіна і Някрасава, Купалы і Коласа, спявалі новыя песні, вельмі з'едлівыя, вострыя прыпеўкі пра кудлатых папоў і замшэлых кулакоў.

Цікавыя гутаркі, а часамі нават гарачыя спрэчкі, дыспуты адбываліся ў ціхіх зімовых хатах маёй роднай вёскі. Была такая спрэчка і ў нашай хаце. Накурылі, надымілі ў ёй мужчыны, седзячы за поўнай віхурнай зімою. Некаторыя ўжо браліся за шапкі, зашпільвалі кажухі, каб ісці дадому, а мой бацька кажа:

— Бацюшка наш выпісвае газеты. Ён, шэльма, добра ўсё ведае.

— Добра снедае, абедае дык усё і ведае,— жартуе Азаронак Панас, вусаты, як таракан, языкасты мужычок.

— А што ён ведае? — пытаецца настаўнік.

— Бацюшка недзе вычытаў, што ўсё вісіць на валаску,— адказвае бацька.— Ён казаў, што пахне порахам, што захісталіся кардоны.

Усе прыціхлі, чакаюць адказу настаўніка.

— На моцным замку, на цвёрдых нагах нашы кардоны! — гаворыць ён.— Не расхістаць, не паваліць іх маршалу Пілсудскаму. Мала з'еў кашы.

— Во, во! — зноў гаварыў бацька.— Поп і казаў пра гэтую самую кашу... Нібыта зноў яе заварыць хочуць пілсудчыкі, усялякія там паны і падпанкі.

— І заварадь! Яны такія. Я іх ведаю. Заварадь!— замітусіўся вусаты Азаронак.

— Заварыць яны могуць,— згаджаецца настаўнік.— Але самі яе расхлёбваць будуць. Захлынуцца, апякуцца гарачаю кашай.

— А што, калі да іх далучацца немцы, англічане? — спалоханымі вачыма пазірае Бондар Лукаш,

цыбаты, лысы мужык.— А да іх яшчэ далучацца японцы, амерыканцы? Што тады?

— Антанта! Бяда!— палохаецца яшчэ больш мужычок-таракан.

Настаўніку гэта не падабаецца. Ён спакойна кажа:

— Не палохайце вы адзін аднаго. Была ж ужо Антанта. А дзе яна? Мы яе часткова загналі ў магілу, часткова ў моры ўтапілі, а рэштку за мора-акіян вытурылі з нашай краіны. Так жа было?

— Ага, было,— згаджаецца цыбаты, лысы Бондар Лукаш.— Гэта праўда. Так яно было.

Усе паспакайнелі, зноў закурылі, пачалі гаворку пра тую камету, на якую можа наляцець сонца. А што тады? Аслепне сонца. Нічога яно не ўбачыць на зямлі, нікога не сагрэе.

— Бяда! — наганяе страх Панас Азаронак.— Далібог, наляціць на камету сонца! Далібог, гэта самае...

— Супакойцеся, Панас Архіпавіч,— перапыняе палахліўца настаўнік.— Ніяк яно не наскочыць. На сваім месцы стаіць сонца. Мільярды год гарыць, палымнее, нікуды не адплывае, не адыходзіць.

— Як гэта не адыходзіць? Адыходзіць! — пярэчыць разважлівы Лукаш.— І ў песні пяецца: сонца ўсходзіць і заходзіць, а ў турме маёй...

— Гэта ў песні,— папраўляе яго настаўнік.— А ў сонечнай сістэме яно не так.

— А як? Сонца не плавае, не круціцца?..

Слухаю, а мяне разбірае злосць. Няўжо гэтыя лы-

сыя, вусатыя, барадатыя дзядзькі не ведаюць, як пабудавана сонечная сістэма? Дзівакі! А можа, хітруны? Можа, яны хочуць мяне праверыць? Дык я — ведаю! Мне настаўнік у школе казаў... Звяртаюся да самага паважанага, разважлівага, лысага і кажу:

— Дзядзька Лукаш, сонца не круціцца.

— А што круціцца?

— Зямля круціцца вакол свае восі.

— А якая тут вось? З дубу, з грабу, ці, можа, яна жалезная?

Я і рот раскрыў... «Чаму ж нам настаўнік не казаў, якая вось! З дубу ці жалезная?..» Але, не разгубіўшыся, нібыта не пачуўшы пра тую таямнічую вось, расказваю пра планеты сонечнай сістэмы, а лысы Лукаш мяне не слухаў, учапіўся за вось.

— А хто яе падмазвае? — пытаецца.— Яе дзёгцем трэба падмазваць. Калі мне трэба ехаць, дык я бяру дзяхцярку, квач і квэцаю восі. Не падмажаш — не паедзеш. Чуеш?

Мне яго слухаць не хочацца, злуюся, а ён павучае:

— Дзёгцем падмазвай вось, а то перагарыць. Трэсне!

Чорненькі вусач таракан паўтарае:

— Ага, трэсне!

«А каб вы самі трэснулі! — думаю.— От прычапіліся!..»

Дзядзька Лукаш палохае:

— Трэсне, зломіцца вось. А тады што? Нібы калясо, саскочыць, пакоціцца зямля.

— Пакоціцца! — услед паўтарае Азаронак.— А куды яна пакоціцца?

— У вялікі акіян пакоціцца,— адказвае Лукаш.— На кітах будзе стаяць. Яна ж там некалі стаяла. Так і ў бібліі сказана: на кітах!..

«Жартуюць яны ці ўсур'ёз? — думаю.— Можа, і не ведаюць? А чаму маўчыць настаўнік? Можа, ён майго слова чакае? Вунь ён на мяне глядзіць, хітра ўсміхаецца...»

І я не вытрываў, наскочыў на дзядзьку, на біблію:



— Няпраўду вы гаворыце! — кажу.— Папы, усялякія прайдзісветы напісалі біблію! Хлусіць біблія!.. Наўкол Сонца круціцца Зямля, Месяц, Марс, Венера, усе планеты сонечнай сістэмы... Трэба вам у школу хадзіць, дзядзька Лукаш.

— А мне?

— І вам, дзядзька Панас,— кажу Азаронку.

— Варта падумаць,— нібыта згаджаецца ён, пакручвае чорныя вусы.

— Малайчына! — пахваліў мяне настаўнік.— Вытрымаў экзамен. Выдаю атэстат! — і падарыў мне кніжачку вершаў Янкі Купалы.

Надыходзіла вясна, набліжаўся другі мой экзамен, ужо не ў нашай хаце, а ў школе. Убралі мы яеляснoй дзеразою, яловымі лапкамі, галінкамі бэзу. Жоўтым пясочкам пасыпалі дарожку, якая вядзе да школьнага ганка. Падрыхтаваліся, як да вялікага свята.

На выпускныя экзамены чацвёртага класа Хатлянскай школы да нас прыехаў з Мінска нейкі добры таўстун, вясёлы чалавек. Ён вельмі быў падобны на Мохарта, нашага ляснічага і славутага паляўнічага. Мусіць, яны былі дружбакамі. Удвух прыехалі ў Мохартавай калясцы да школы.

Пачаліся экзамены. Настаўнік выклікаў вучняў, а яны на дошцы рашалі задачкі, на карце паказвалі рэкі, моры, гарады, краіны свету. У некаторых пыталіся пра даўнейшых князёў, цароў, звяроў, птушак. Мінскі таўстун слухаў, маўчаў, а Мохарт у Данілкі Плісаўкі запытаўся:

— А ці карміў ты зімою снегіроў і сінічак? Ці даваў ім каноплі, проса?

Маўчыць, у акно пазірае Данілка. Мусіць, птушкам не даваў канапель і проса.

— Я — карміў! — хвалюся.— У мяне нават жораў быў з восені да вясны.

— Садзіся, паляўнічы,— кажа мне Мохарт, ды зноў да Данілкі: — А які самы магутны звер?

— Леў! — смела адказвае Данілка.— Ён звярыны цар!

— Ну дык што, калі цар! Падумаеш! — запярэчыў я Данілку.— Цар не вельмі магутны. З трону скінулі цара!

— Правільна! — рагоча мінскі таўстун.— І цар, і трон паляцелі вон! Правільна!

І настаўнік, і Мохарт смяюцца, а таўстун пазірае на мяне, пытаецца:

— У якім поясе ваша вёска?

— У зялёным: лугі і лясы.

— А Мінск?

— Мінск ажно за Рудзенскам. На падводзе трэба ехаць да Рудзенска, а далей — поездам.

— Правільна! — згаджаецца мінскі вясёлы дзядзька.— Вытрымаў экзамены. Сядай, хлопчык.

Зусім не страшна, не сумна, а весела было на экзаменах. Можа, таму, што дужа вясёлымі былі Мохарт і ягоны сябра з Мінска, лагодны дзядзька. Ён слухаў нашу дэкламацыю вершаў, а пасля пачаў сам расказваць байкі Кандрата Крапівы. Вельмі ж у яго добра, ёмка і смешна выходзіла.

— А ведаеце, хто напісаў гэта? — запытаў ён у нас, школьнікаў.— Кандрат Крапіва, ваш зямляк, байкар з Нізка.

Я ўжо ведаў, што ён з Нізка. Мяне вельмі здзівіла: Кандрат Крапіва ніколі не быў у Хатлянах, у маёй Дуброўцы, а гэтак добра ведае жыццё і побыт нашых людзей, гэтак востра, хвацка высмейвае нашага п'янчужку папа, нашых шаптуноў і лайдакоў, хуліганаў і бюракратаў... «Мусіць, крадком усё-такі пабываў Крапіва ў нашай вёсцы! — думаў я.— А можа, яму нехта расказаў пра ўсё, што ў нас адбываецца?..»

На экзаменах я чытаў нешта сваё, а пасля па памяці дэкламаваў радкі з паэмы «Новая зямля»: «Мой родны кут, як ты мне мілы!.. Забыць цябе не маю сілы!»

«Дык гэта ж пра нашы лясы, паплавы, пра наш родны зялёны кут! Вунь — гэта ж на ўзлеску той вялікі дуб, пра які пісаў паэт, а вунь і тая светлая рака, тая зіхацюткая вясёлка, якая залатым каўшом чэрпае ваду».

Сядзеў добры вясёлы дзядзька з Мінска, слухаў, а пасля кажа:

— Як дубок між салаўінай дубровы, расцеш ты, хлопчык, між паэтаў-землякоў. Пявучы ваш кут. Душою лаві жывыя галасы зямлі. Пішы. Трэба добра пісаць, каб вытрымаць нялёгкі экзамен на добрага паэта.

Гэта быў запавет шчырага, разумнага чалавека, які з дзядзькам Мохартам у ягонай фасоністай, лёг-

кай калясцы адвячоркам паехаў з Дуброўкі. Выбегшы за весніцы, я стаяў, пазіраў, а каляска аддалялася, рабілася малюсенькаю мурашкаю. Можа, у Лаўск, на хутар павёз Мохарт свайго сябра, майго дабрадзея.

Хай ім добра павячэраецца, паспіцца, а ранкам смачна паснедаецца. Чаго ім яшчэ пажадаць, я не паспеў прыдумаць: маці мяне пагукала на вячэру.



## ДЗЯДЗЬКА МІКАНОР

Пад ціхі шолах сасновых бароў на пясках, пад працяглы шум лазы, ракітніку ды чароту на багнах складаліся легенды і паданні, казкі і быліны аб маім родным Уздзенскім раёне. А складалі іх, мусіць, вось гэткія вясёлыя і забаўныя людзі, як дзядзька Міканор з маёй вёскі Дуброўкі. Не ведаўшы старога Міканора ды паслухаўшы яго, падумаеш, што чалавек белы свет абышоў, што гэта нейкі славуты гісторык або географ. На любое пытанне Міканор дасць вам адказ.

Добрым брыгадзірам паляводчай брыгады быў Міканор Селівончык у калгасе, але пастарэў чалавек, пасівеў, цяжкавата стала яму брыгадзірства. На лягчэйшых работах цяпер ён... Вось запрасілі яго піянеры ў нядзелю да свайго кастра. Касцёр гарыць на ўзлессі, а ў гушчыні лесу дзікія галубы буркуюць, недзе далёка сава рагоча.

— А зязюлі не пачуеш ужо,— заўважыў Міканор.— Коласам удавілася. Пачне кукаваць, а не куецца — кашляецца: кха, кха...

Усе насцярожыліся, прыціхлі, а знаўца прыроды Міканор супакойвае іх: гэта толькі так гаворыцца — коласам удавілася, гэта для народа прыкмета: людзі, не спіце ў шапку, рыхтуйце жняяркі ды камбайны, сярпы вастрыце, жаць скора... Многа ведае народных прыкмет Міканор.

Гарыць, патрэсквае касцёр, водсветы яркага полымя кладуцца на твары, на чырвоныя гальштукі, а гальштукі яркія, як зоры тыя ў небе.

На росны поплаў выгналі табун калгасных коней. Цёпла пафыркваюць коні ў росную траву, чуваць, як рыпіць яна пад капытамі. За поплавам, за ракою Шачаю балацінка, хмызняк. Плыве адтуль туман, клубіцца над ракой, над поплавам. А глянеш ад кастра, здаецца, што там дым, што там гарыць поплаў. А вось да агню начлежнікі падышлі ад вугольчыкаў прыкурваць. Са смалістага сасняку цёплае паветра плыве, а ў ім настой верасу, багуну, жывіцы, маліны. Ой, які густы, мядовы настой! Хоць чай заварвай!.. А Міканор ужо пра «свайго» пана расказвае. Панам «сваім» ён лічыць абшарніка Пуцяту.

— Лугам вось гэтым, бывала, ідзеш... Чый луг? Пуцятаў. Полем тым ідзеш... Чыё поле? Пуцятава. Вунь аж у той лес прыходзіш... Чый лес? Пуцятаў. Дорам той лес завецца. А за Дорам аж да самага Шацка ўсё таксама Пуцятава. Во які багаты пан быў той Пуцята! Уцёк у Кастрычніку.

— А чаму ж вы яго не злавілі?

— Чаму, чаму! — хвалюецца Міканор.— Мы б яго злавілі, але ён, шэльма, ноччу, як людзі спалі, драпануў. Прачнуліся панскія парабкі, а пана няма, і след ягоны прастыў... Многіх такіх паноў ды падпанкаў рэвалюцыя турнула з нашай зямлі. Ой, многіх...

Апавядае Міканор пра памешчыкаў, а не ведае, колькі іх было да рэвалюцыі на Уздзеншчыне. На гэтае пытанне нам дакладна адказваюць дакументы ■ дзяржаўнага архіва. Трыццаць пяць памешчыкаў, графаў ды князёў мелі зямлю на Уздзеншчыне. На кожную ж сялянскую сям'ю прыпадала не больш двух-трох гектараў зямлі, ды і то самай горшай.

Раздзяляліся, бяднелі, прадавалі свае кавалачкі зямлі беднякі кулакам. Жабракамі ішлі па свету бедныя людзі, пакідалі родныя мясціны і перасяляліся на Паволжа, у Сібір, на Каўказ, эмігрыравалі ў Амерыку, за морамі-акіянамі шукалі нашы людзі шчасця. Пра такіх «амерыканцаў» расказвае ў тым жа вясёлым кружку дзядзька Міканор:

— Як успомню я пра нашых «амерыканцаў», якія пабывалі за акіянам, дык страшна мне робіцца. Сам я ў тую Амерыку праводзіў сваіх двух сяброў з Дуброўкі. Даўно гэта было. Яловік Міхаль і Селівончык Паліт паехалі за мора-акіян долі-шчасця шукаць. «Чакай, Міканор, напішам і табе знойдзем кавалак пірага...» Гэта так гаварылі, ад'язджаючы, сябры мае. Чакаў я, чакаў, а ні пісьма, ні таго дакля-

раванага пірага няма. Ні слыху ні дыху з таго заморскага свету.

— Дык, можа, яны ў моры патанулі?

— Во-во, даражэнькі,— адказвае хлопцу Міканор,— угадаў. Патанулі. Толькі патанулі не ў моры, а ў вялікім горы. Паехалі туды здаровымі хлапцамі, а прыехалі адтуль хворымі, старымі недарэкамі. Паліт, калі ад'язджаў, быў кучаравы, стройны дзяцюк, а вярнуўся лысы, як той бубен. Згорбіўся, зморшчыўся Паліт.

«Што з табою? Што скруціла цябе?» — «Амерыка,— адказвае.— Амерыка мяне скруціла. Шукаў рай, а ў пекла трапіў...» Вярнуўся з таго заморскага «раю» хворым і другі мой сябар, Яловік Міхаль. Прывёз ён адтуль самавар. На шклянку чаю запрасіў мяне. Прыйшоў я. На стале сіпіць жоўты самавар, а за сталом сядзіць з жоўтым тварам, як той самавар, сам гаспадар. Як у тым самавары, сіпіць, храпіць у грудзях у Яловіка Міхаля. «Амерыка...— паказаў ён на свае ўпалыя, худыя грудзі, і сухі кашаль абарваў яго словы. Маршчыністы лоб яго спацеў, ён вяла махнуў рукою, сказаў:— Амерыка, братка Міканор, у маіх грудзях сухотамі засела. Сухоты ў мяне. Там, у іх...— зноў закашляўся Міхаль,— у сырым падзямеллі сапсаваў я сабе грудзі. Памру...» — «Пажывеш»,— казаў я яму, а сам добра бачыў: памрэ чалавек. І ён неўзабаве памёр. Адзін за другім услед пайшлі ў сырую магілу нашы дубраўскія «амерыканцы».

Задумаўся стары Міканор, спахмурнеў.

— А цяпер, як пачую гаворку пра тую станцыю «Голас Амерыкі», дык заўсёды ўспамінаецца мне Яловік Міхаль. Нібы жывога бачу яго за сталом, а ў грудзях у яго сіпіць, хрыпіць голас Амерыкі!.. От якое шчасце знайшлі нашы дубраўчане за морам. А мы от жывы, здаровы, і хлеб ёсць у нас, і апранаемся хораша, і, дзякуй богу, як той казаў...

Дружны смех спыніў яго.

— Ну й народ! Ну чаго вы: га-га! — крыўдзіўся стары.— Пра бога я так сабе, не ўсур'ёз. Сам ведаю, каму дзякуй сказаць: рэвалюцыі ды Савецкай уладзе. І свабоду, і добрае жыццё яны нам далі. Не трэба шукаць шчасця за морамі, бо яно пад нашымі стрэхамі жыве. За стол саджуся — і яно побач са мной, на работу іду — шчасце крок у крок, не адступае. А вы: га-га-га! Разумець трэба. І на пясчанай ды глеістай нашай Уздзеншчыне хораша жывецца. А казалі: не разбагацееш над Нёманам — пяскі ды вераскі...

Даўно няма дзядзькі Міканора на белым свеце, а праўдзівы расказ ягоны жыве ў маім сэрцы.



## ЗМЕСТ

**Бялевіч А.**

Б 99 Малюнкі маленства. Аповесць. Мн., «Маст. літ.», 1977.

112 с. з іл.

Гэта аповесць пра дзяцінства, пра сувязь чалавека з навакольным светам.

У кнізе юны чытач сустрэнецца з разумнымі, добрымі людзьмі, цікавымі прыгодамі, непрыдуманымі фактамі жывой рэчаіснасці.

Б $\frac{70803\text{-}080}{\text{М}302(05)\text{-}77}$ 137-77 Бел 2

**Антон Петрович Белевич**

РИСУНКИ ДЕТСТВА

Для детей среднего школьного возраста

На белорусском языке

Рэдактар У. Б. Ідэльсон. Мастак Т. А. Мельянец. Мастацкі рэдактар В. І. Кліменка. Тэхнічны рэдактар З. Г. Сень. Карэктар Т. М. Собалева.

ИБ № 92.

АТ 05140. Здадзена ў набор 24/XII 1976 г. Падп. да друку 21/III 1977 г. Тыраж 14 000 экз. Фармат 70×100 1/32. Папера друк. № 1. Ум. друк. арк. 4,5. Ул.-выд. арк. 3,51. Зак. 699. Цана 12 кап.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. Мінск, Свярдлова, 4.

З набора ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарні выдавецтва ЦК КП Беларусі. Мінск, Ленінскі праспект, 79, друкарня імя Францыска (Георгія) Скарыны выдавецтва «Навука і тэхніка» АН БССР і Дзяржкамвыдата БССР. Мінск, Ленінскі праспект, 68. Зак. 704.